16 сакавіка 2018 | № 9 (572)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Юбілей аднаго ўльтыматуму**
Стар. 8

**4 ЧАМУ ЛУКАШЭНКА НЕ ЗМОГ ЗАПУСЦІЦЬ ЗАВОДЫ**

На працягу апошніх гадоў дадзеная нам у адчуваннях рэальнасць адмаўляецца прадстаўляць новыя падставы для аптымізму

**6–7 ТУРМА І ВОЛЯ: КУЛЬТУРНЫ АБМЕН**

На інфармацыйным і ўяўным узроўні пенітэнцыярная сістэма робіцца бліжэй, з далёкага і незразумелага чынніка яна ператвараецца ў прадмет штодзённай рэчаіснасці, і асабліва — палітыкі



**10 100 ГАДОЎ БНР: ДАКУМЕНТЫ СВЕДЧАЦЬ**

Беларусь, хай сабе і ў выглядзе БНР, з пункту погляду міжнароднага права лічылася часткай Расіі. Тэрыторыя Беларусі была разменнай манетай для выхаду Расіі з вайны. Каб пазбегнуць падзелу Беларусі, 25 сакавіка Рада БНР і прыняла гістарычнае і вызначальнае рашэнне

**11 ШТО МЫ ЗНАЙШЛІ І ЗГУБІЛІ НА ПРАСТОРАХ ІМПЕРЫІ?**



# Закон ненаўпроставага дзеяння

## Беларуская Канстытуцыя — ці не самы невыконваемы ў краіне закон



Сяргей ПУЛЬША

Беларускай Канстытуцыі 15 сакавіка споўнілася 24 гады. Амаль чвэрць стагоддзя мы жывём з нацыянальным Асноўным законам. Памятаю, калі яго прымалі, усе казалі: у нас добрая Канстытуцыя, сусветнага ўзроўню. Але ж самы добры закон можна сапсаваць практыкай яго выканання.

Ці, дакладней, невыканання. Гартаючы старонкі Асноўнага закона і згадваючы, што ў нас адбылося толькі за апошнія тры месяцы, разумееш: галоўная хіба нашай Канстытуцыі ў тым, што яна не працуе.

Напрыклад, артыкул 13 Канстытуцыі кажа, што «дзяржава надае ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, і гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх формаў уласнасці».

Дзейнасць прадпрымальнікаў, якія ажыццяўлялі пасажырскія перавозкі ў межах краіны, не забароненая законам. Але Міністэрства транспарту, апелюючы іншым законам, паставіла іх прыватны бізнес у падпарадкаванне аўтавакзалам — гэта роўныя правы? Калі Мінтранс загадвае, дзе можна браць пасажыраў, а дзе нельга, патрабуе вызначаць маршруты для паперкі, а не дзеля людзей — гэта «роўныя ўмовы для развіцця ўсіх формаў уласнасці» ці наадварот?

А «дармаедскі дэкрэт», новая рэдакцыя якога павінна неўзабаве з'явіцца ў краіне? Паводле Канстытуцыі (артыкул 41), грамадзянам гарантуецца права на працу «як найбольш годны спосаб самасцвярджэння чалавека». А «ў выпадку незанятасці асобы па незалежных ад яе прычынах ёй гарантуецца навучанне новым спецыяльнасцям і павышэнне кваліфікацыі з улікам грамадскіх патрэбаў».

Асноўная канва «дармаедскага дэкрэту» — прымусіць дармаедаў плаціць паболей, прычым невядома за што і пакуль невядома як. Пра гарантыі права на працу і павышэнне кваліфікацыі ў гэтым (як, дарэчы, і ў мінулым дакуменце) заканадаўцы неяк забыліся.

Зусім свежы прыклад бяздзеяння беларускага Асноўнага закона — справа Святаслава Барановіча. Хлопец убачыў, што нейкія хуліганы напалі на групу падлеткаў. І кінуўся бараніць гэтых падлеткаў. Аказалася, што «хуліганы» — міліцыянты ў цывільным, якія не прадстаўляліся і ніяк не пазначылі тое, што яны міліцыянты. А падлеткі — купка анархістаў, якія проста ўдзельнічалі ў, дарэчы, санкцыянаваным уладамі (!) шэсці на дзень Канстытуцыі (!!!) 15 сакавіка 2017 года. У выніку Барановічу днямі далі тры гады калоніі агульнага рэжыму.

Незадоўга да прысуду міністр унутраных спраў спадар Шуневіч заявіў, што ўсе, хто будзе накідвацца на супрацоўнікаў міліцыі, «будуць атрымліваць». Але, каб накінуцца на супрацоўніка, трэба ж ведаць, што ён супрацоўнік, праўда? І асабліва ведаць, што гэта супрацоўнік, які «пры выкананні».

Што пра гэта кажа Асноўны закон? У артыкуле 22 запісана, што ўсе роўныя перад законам і маюць права без усялякай дыскрымінацыі на роўную абарону правоў і законных інтарэсаў. Артыкул 23 вызначае, што «ніхто не можа карыстацца перавагамі і прывілеямі, якія супярэчаць закону». Артыкул 33 кажа, што кожнаму гарантуецца свабода меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне, а артыкул 35 — што свабода сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, якія не парушаюць правапарадак і правы іншых грамадзян Рэспублікі Беларусь, гарантуецца дзяржавай.




Што мы атрымалі ў выніку? Анархісты ўдзельнічалі ў дазволеным (паўтаруся) уладай вулічным шэсці, спраўджваючы свае правы на сходы і выказванні. Супрацоўнікі міліцыі ў цывільным спрабавалі гэта права парушыць. Барановіч паспрабаваў узнавіць законнасць — і атрымаў тры гады калоніі.

Гэта — не «нацяжка». Калі ўжо закон абавязковы для выканання, дык Асноўны закон (то бок Канстытуцыя) — гэта таксама закон. Калі перад законам усе роўныя, то ўсе роўныя і перад Асноўным законам. Калі дзеянні міліцыянтаў парушалі правы людзей, замацаваныя ў Канстытуцыі (то бок законе), адпаведна, яны былі незаконнымі. І міліцыянты не могуць у дадзеным выпадку прыкрывацца сваім службовым становішчам — зыходзячы з той жа роўнасці перад законам і недапушчальнасці незаконных пераваг і прывілеяў.

Але ж прыкрыліся: і «самы гуманны і справядлівы суд у свеце» вынес адпаведны вердыкт.

Увогуле, што можна казаць пра нашу Канстытуцыю, калі, у выніку «правак», унесеных у яе ў 1996-м, няроўнасць грамадзян перад законам закладзена ў ёй самой? Не верыце?

Артыкул 60 Канстытуцыі гарантуе кожнаму (!) абарону яго правоў і свабод кампетэнтным, незалежным і непрадузятым судом у вызначаныя законам тэрміны. А артыкул 116 той жа Канстытуцыі абмяжоўвае права грамадзян звяртацца ў асобна ўзяты суд — а менавіта ў суд Канстытуцыйны. Ён разглядае пытанні толькі па прапановах прэзідэнта, Палаты прадстаўнікоў, Савета Рэспублікі, Вярхоўнага Суда, Вышэйшага Гаспадарчага Суда і Савета Міністраў, — і гэта таксама запісана ў Канстытуцыі.

Юрысты могуць шмат казаць, што гэты дакумент — прыгожая дэкларацыя, што Канстытуцыя не мае найпраставага дзеяння. Але «Dura lex, sed lex» — «Суворы закон, але закон», — казаў, калі верыць паданням, законнік Цыцэрон. І калі мы ўжо назвалі Канстытуцыю законам — яна павінна выконвацца. Як і іншыя законы.

# Як адсвяткуюць Дзень Волі

**У гэтым годзе Дзень Волі можна, мабыць, назваць незвычайным — упершыню за многія гады святкаванне пройдзе фактычна на дзяржаўным узроўні. Акрамя вялікага канцэрту і мітынгу 25 сакавіка, у Мінску запланаваныя — і ўжо праходзяць — мноства мерапрыемстваў з удзелам прадстаўнікоў уладаў.**

Такі «размах» моцна кантрастуе з леташнім Днём Волі, які сталічныя ўлады «адсвяткавалі» вывадам у цэнтр Мінска падраздзяленняў АМАП з аўтаматамі ды цяжкай тэхнікай і зняволеннем лідараў апазіцыі ў ізалятарах.

Праз год сталічныя ўлады не толькі дазволілі выкарыстоўваць бел-чырвона-белы сцяг, але і самі прапанавалі ў якасці месца для правядзення святочнага канцэрту і мітынгу плошчу каля Вялікага тэатра оперы і балета, а таксама запланавалі на гэты тыдзень шэраг мерапрыемстваў у Мінску з удзелам афіцыйных асоб.

Пачаліся мерапрыемствы ўжо 13 сакавіка ў Мінску, у парку Янкі Купалы — там адкрылі памятны знак у гонар заснавальнікаў БНР братоў Луцкевічаў.

У сераду, 14 сакавіка, у Нацыянальным гістарычным музеі распачала працу экспазіцыя, прысвечаная 100-годдзю БНР, на якой прадстаўлены ўнікальныя экспанаты: рукапісы дакументаў БНР, асабістыя рэчы заснавальнікаў рэспублікі. Працаваць экспазіцыя, як удакладнілі ў музеі, будзе да 7 траўня.

15–16 сакавіка на базе Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук прайшла міжнародная канферэнцыя па тэме БНР. Як распавялі ў Інстытуце гісторыі, у канферэнцыі ўзялі ўдзел гісторыкі, архівісты з Беларусі і Польшчы.

На дзяржтэлеканалах таксама адзначаць круглую дату. Напрыклад, 19 сакавіка на тэлеканале АНТ у ток-шоў «Наша жыццё» абмяркуюць 100-я ўгодкі БНР і яе ролю ў гісторыі Беларусі. У перадачы прыме ўдзел дэпутат Ігар Марзалюк, дырэктар Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Вячаслаў Даніловіч і іншыя эксперты.

Да 25 сакавіка на будынку па вуліцы Валадарскага, 9, дзе сто гадоў таму была абвешчана незалежнасць БНР, з удзелам гарадскіх уладаў будзе адкрыта мемарыяльная дошка. Дазвол на яе ўсталяванне Мінгарвыканкам даў 1 сакавіка. Аўтар памятнай дошкі — мінскі скульптар Алесь Шатэрнік. Дошку адлілі яшчэ 25 гадоў таму з недарагога сілуміну (сплаў алюмінію з крэмніем), але так і не ўстанавілі.

За гэты час некаторыя элементы разбурыліся, ёсць заўвагі па якасці. Актывісты абвясцілі збор грошай на выраб і ўстаноўку новай памятнай дошкі, грошы карыстальнікі сацсетак сабралі за тры гадзіны.

Як было вядома раней, 25 сакавіка гарадскія ўлады бясплатна дадуць пляцоўку, паслугі міліцыі і медыкаў, якія будуць дзяжурыць падчас акцыі, уборку тэрыторыі пасля мерапрыемства, а таксама біятуалеты. Была агучана прапанова ўсталяваць — але ўжо на платнай аснове — гукаўзмацняльную апаратуру, але арганізатары вырашылі паставіць сваю, больш прафесійную. На яе працягваюць збіраць грошы праз краўдфандынг: сабрана ўжо больш за 30 тысяч рублёў з неабходных 35 тысяч.

Арганізатары таксама планавалі паставіць на плошчы Парыжскай Камуны перад Вялікім тэатрам фудкорт, крамы з сувенірамі. На адной з сустрэч у Мінгарвыканкаме прадстаўнікі ўлады абмовіліся, што горад гатовы забяспечыць кропкі грамадскага харчавання.

Арганізатары таксама дамовіліся з прадстаўнікамі Мінгарвыканкама, што сцэну ля Вялікага тэатра пастаявяць загадзя — 24 сакавіка. Ноччу яе будзе ахоўваць міліцыя. Праход на канцэрт, як раней і заяўлялі, будзе праз турнікеты.

У рэгіёнах таксама пададзены заяўкі на правядзенне 25 сакавіка святочных канцэртаў. Адмову пакуль атрымаў толькі Магілёўскі аргкамітэт, і толькі на правядзенне аднаго з канцэртаў.

**Паводле Алены Талкачовай, tut.by. Пераклад НЧ**

# Ці палітвязень Святаслаў Барановіч?

Генадзь КЕСНЕР

**У сацыяльных сетках разгарнуліся гарачыя спрэчкі вакол баксёра-аматара і былога палітвязня Святаслава Барановіча — ці варта прызнаваць яго палітвязнем.**

Нагадаем, 12 сакавіка суд Маскоўскага раёна Мінска прызнаў грамадскага актывіста Святаслава Барановіча вінаватым ва ўчыненні гвалту ў адносінах да супрацоўнікаў органаў унутраных справаў і прызначыў пакаранне ў выглядзе трох гадоў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Летась 15 сакавіка Святаслаў бараніў прадстаўнікоў анархісцкага руху ад невядомых асобаў, якія напалі на маладзёнаў у тралейбусе на Плошчы Бангалор у сталіцы пасля акцыі пратэсту «недармаеду». Пры гэтым, як прызнаўся сам Барановіч, ён нанёс некалькі ўдараў невядомым асобам, апранутым у чорнае, без апазнавальных знакаў. Бок абвінавачання сцвярджаў, што некалькімі ўдарамі Святаслаў Барановіч паваліў долу супрацоўніка АМАПу Арцёма Паўлава. Падзеі адбываліся ў сакавіку, але Барановіча затрымалі толькі праз паўгода, у кастрычніку. Чаму? Добрае пытанне.

Першапачаткова крымінальная справа была заведзеная паводле артыкула «хуліганства», але пазней была перакваліфікаваная ў «гвалт у дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў». І вось — тры гады няволі.

Адразу ўзнікла пытанне, ці будзе Святаслаў Барановіч прызнаны палітычным вязнем. Некаторыя беларускія праваабарончыя арганізацыі — «Вясна» і Беларускі Хельсінкскі камітэт — з жалем адзначылі, што не могуць гэтага зрабіць, бо падсудны сапраўды ўчыніў гвалт адносна іншага чалавека. Грамадскія актывісты ў даволі вялікай колькасці не пагадзіліся з праваабаронцамі і абрынуліся на іх з крытыкай.

«Новы Час» прапануе меркаванні прадстаўнікоў грамадзянскай ініцыятывы «За волю» Ганны Шапуцькі і старшыні ліквідаванага ўладамі Праваабарончага цэнтру «Вясна» Алеся Бяляцкага.

**Ганна Шапуцька:**

— З пункту гледжання ўдзельнікаў форуму «Свабоду палітвязням Беларусі», Барановіч з'яўляецца палітвязнем. У яго справе ёсць палітычная матывацыя — як з боку ўладаў, так і з боку самога Барановіча. Ад самага пачатку былі парушаны правы Барановіча пры яго затрыманні, а пасля суду адпалі ўсе пытанні, якія маглі б і быць.

Судовага працэсу як такога не было. Не было даказана, што Барановіч збіваў супрацоўніка міліцыі, бо калі нават гэта і былі супрацоўнікі міліцыі, то яны не прадстаўляліся, яны не былі ў форме. Яны парушылі і заканадаўства аб праваахоўных органах, і ўсе свае інструкцыі, і, па вялікім рахунку, яны мусілі сядзець на лаве падсудных за збіццё людзей пасля мірнай акцыі.

Прысуд Барановічу — тры гады пазбаўлення волі — жахлівы, але гэта не было шокам, бо мы добра ведаем, у якой краіне мы жывем, што законы ў нас не дзейнічаюць, а сапраўдных судоў няма. Зараз трэба рабіць усё, каб гэты прысуд быў ануляваны. Інакш будуць яшчэ горшыя справы, чым справа Барановіча.

Мы прызналі Барановіча згодна з крытэрамі Рады Еўропы палітвязнем, але праваабаронцы «Вясны» і Беларускага Хельсінкскага камітэту так не лічаць. Паводле прынятых імі крытэраў, чалавек, які ўжыў гвалт да нейкага іншага, не можа лічыцца палітвязнем. А гэта супярэчыць крытэрам Рады Еўропы і «Міжнароднай амністыі» (Amnesty International), бо згодна іх крытэрам, толькі тэрарысты не могуць быць палітычнымі вязнямі, і тое толькі тады, калі іх віна даказаная праз суд на сто адсоткаў. Улада карыстаецца тым, што ў «Вясны» і БХК такая слабая пазіцыя, бо яны абмежавалі крытэры «Міжнароднай амністыі» і Рады Еўропы, таму ўлада можа кожнага чалавека падвесці пад нейкі гвалт. Варта згадаць справу таго ж Андрэя Кіма, якога праваабаронцы ў свой час таксама не прызналі палітвязнем.

**Алесь Бяляцкі:**

— Нашы прынцыпы прызнання палітвязняў — негвалтоўны супраціў. Гэта не мусіць быць ужыванне сілы, гэта магчыма толькі ў тых выпадках, калі ты сябе бароніш. А на відэа выразна бачна, што міліцыянты ў той момант не ўжывалі гвалт, хоць відэа магло быць і не поўным.

Мы карыстаемся агульнымі міжнароднымі стандартамі, мы за іх трымаемся, і гэта прынцыпова для нас, таму што сёння адна сітуацыя, а заўтра – другая. Гэтыя стандарты даюць нам магчымасць аб'ектыўна глядзець на такія справы. Так, там можна казаць, што і з боку міліцыі сітуацыя была неадназначная, але і з боку анархістаў, якія мелі закрытыя твары на дазволенай акцыі — не зразумела, што было рабіць? Калі акцыя дазволеная, то нашто закрываць твары?

Адна правакацыя пацягнула другую правакацыю з боку пераапранутых міліцыянтаў. Барановіч апынуўся міжволі ўдзельнікам. Ён меў пэўны парыў душы, які, на жаль, не ўпісваецца ў праваабарончыя стандарты. Па-чалавечы я яго разумею, але, з іншага боку — адназначна нельга распускаць рукі. Гэта пасыл усім грамадскім актывістам: калі ты ўдзельнічаеш у грамадскай акцыі, у адкрытых мерапрыемствах, ты бярэш на сябе пэўныя абавязкі, і трэба дакладна разумець, што ўжыванне гвалту ні ў якім выпадку — прынамсі, намі — не будзе вітацца. Толькі ў выпадку самаабароны. Тады, калі ты сябе бароніш альбо калі кагосьці, каго збіваюць, тады можаш у дапушчальных межах бараніць гэтага чалавека ці сябе.

# «Вызваліце майго мужа!»

НЧ

**Каля будынку амбасады Беларусі ў Лондане сабраліся пратэстоўцы, неабыякавыя да лёсу вязняў у беларускіх турмах. Яны патрабавалі свабоды для англічаніна Алана Сміта, японца Дайчы Ёшыды і беларуса Алеся Юркойця.**

Арганізавала пікет Магдалена — жонка зняволенага ў ВК-3 (Віцебск) грамадзяніна Вялікабрытаніі Алана Сміта. Яна ўжо доўгі час беспаспяхова вядзе барацьбу за вызваленне свайго мужа, які быў асуджаны за нібыта садзейнічанне незаконнай міграцыі.

Удзел у пікеце ўзялі прыкладна пятнаццаць чалавек, большасць з якіх склалі сваякі і сябры Алана. Жонка зняволенага і арганізатарка пікету Магдалена паспрабавала перадаць свой зварот беларускаму консулу, але той адмовіўся прыняць ліст асабіста, прапанаваўшы скарыстацца паштовай скрыняй.

Чалавеку, які валодае толькі англійскай мовай і не мае сваякоў у Беларусі, сядзець ва ўмовах беларускай калоніі значна цяжэй, чым звычайнаму зняволенаму.

«З верасня 2016-га я знаходжуся ў страху за жыццё майго каханага. У нас амаль няма кантакту, мы не можам пабачыць адзін аднаго — толькі пісаць лісты, але нават гэтую магчымасць у нас забіраюць. Алан пазбаўлены ўсяго — кніг, вітамінаў, тэлефонных званкоў, магчымасці спаткання з сям'ёй... Нават яговых сяброў па калоніі, якія ведаюць англійскую мову, перавялі ў іншы будынак, і ў выніку ён не можа разлічваць на нічыю дапамогу.

Я прашу прэзідэнта Лукашэнку вярнуць мне майго Алана, з якім мы разам ужо 11 гадоў. Мы былі нармальнай шчаслівай парай і ніколі не былі крымінальнікамі», — гаворыць у сваім звароце жонка вязня.

Пікетоўцы звярнулі ўвагу і на лёс двух іншых зняволеных па гучных справах. Японскі мастак і калекцыянер зброі Дайчы Ёшыда быў асуджаны на чатыры з паловай гады за тое, што, вандруючы з Кіева ў Токіё праз Мінск, вёз з сабою фрагменты антыкварнай зброі. Краязнавец Алесь Юркойць быў асуджаны ў гучнай «справе мытнікаў», віну сваю ён адмаўляе.

Брытанская паліцыя пікетаванню не перашкаджала.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# З асцярожным аптымізмам...

Сяргей САЛАЎЁЎ



**Гэты тыдзень прынёс даволі шмат навінаў, якія выклікаюць здзіўленне. Недзе нават можна ўявіць, што ў краіне адбываецца змена парадыгмы. Падаецца, вясна, нягледзячы на спазненне ў каляндарным плане, усё ж (будзем спадзявацца) уступае ў свае правы.**

Змена парадыгмы назіраецца ў тым, што нарэшце ад доўгай спячкі прачынаюцца беларускія ўлады. Яны спалі амаль чвэрць стагоддзя. Зараз яны расплюшчваюць вочы і азіраюцца: «Дзе мы? Хто мы? Што мы?» Апроч Мінска, дзе ўлады далі дазвол на святкаванне стагоддзя незалежнасці Беларусі, аналагічна дзейнічаюць і рэгіёны.

Заяўку на правядзенне 25 сакавіка святочнага фэсту «100 год БНР» ухвалілі Брэсцкі гарвыканкам. Святочны фэст пачнецца а 13-й гадзіне на плошчы Свабоды. Спачатку пройдзе паўгадзінны мітынг, на якім выступяць палітычныя і грамадскія актывісты горада, а таксама, па словах аднаго з заяўнікаў акцыі, кіраўніка Брэсцкай арганізацыі БНФ Зміцера Шыманскага, — прадстаўнікі брэсцкіх уладаў.

Цікава, як будзе пачуваць сябе кіраўніцтва Брэста на, дэ-факта, апазіцыйным мітынгу? Тым больш, што чыноўнікі дазволілі прыносіць на Дзень Волі бел-чырвона-белыя сцягі і герб «Пагоня» разам з іншай сімволікай, «тэматычна звязанай з адзначаемай падзеяй». У музычнай частцы фэсту выступяць духавы аркестр Брэста, а потым адбудзецца рок-канцэрт з удзелам «:B:N:», «Re1ikt», «Zolki Band».

На фэсце будуць працаваць сувенірны кірмаш, фатазоны і дзіцячыя пляцоўкі. Паралельна з музычнай пляцоўкай будуць праходзіць майстар-класы раменнікаў, а рэканструктарскія клубы адновяць эпоху Беларускай Народнай Рэспублікі.

Ухвалілі заяўку на святочны канцэрт-мітынг 25 сакавіка і Гродзенскі гарвыканкам. Мерапрыемства пройдзе ў Каложскім парку горада. Па словах аднаго з арганізатараў Вадзіма Саранчукова, збор удзельнікаў прызначаны на 13-ю гадзіну. Канцэрт-мітынг пачнецца а 14-й і працягнецца да 17-й. Падчас канцэрту будзе працаваць фудкорт і сувенірны кірмаш.

Арганізатары Дня Волі ў Гродна яшчэ не вызначылі спіс музыкаў, якія будуць выступаць на канцэрце. Але Саранчукоў кажа, што дадаткова ўзгадняць спіс беларускіх музыкаў з уладамі не трэба, а для замежных трэба будзе атрымаць канцэртны дазвол. Ёсць папярэдняя дамова з «N.R.M».

Канешне, імаверна, улады пайшлі на такія дазволы не проста так. Хутчэй за ўсё, тактыка дазволаў скіравана на тое, каб жыхары абласных цэнтраў не з'ехаліся на маштабнае свята ў Мінск. Але, па-першае, з-за арганізаванага Міністэрствам транспарту транспартнага калапсу даехаць вялікай колькасці людзей у Мінск і так праблематычна. А па-другое, урэшце здзяйсняецца адна з апазіцыйных мараў. А менавіта — каб Дзень Волі быў святам, а не супрацьстаяннем. Пра гэта нам казалі ці не на кожным мітынгу 25 сакавіка.

І зараз галоўнае — каб арганізатары гэтага свята не аблажаліся з яго арганізацыяй, выбачайце за таўталогію.

У мінулых нумарах мы шмат пісалі пра дзеянні Рассельгаснагляду ў дачыненні да беларускай «малочкі». Урэшце сам кіраўнік ведамства Сяргей Данкверт зразумеў, што нейкае глупства змарозіў. І зараз ён ужо «не выключае», што Расія адмовіцца ад увядзення абмежаванняў на пастаўкі малочна-белых прадуктаў з Беларусі — нібыта «ў выпадку пазітыўных вынікаў работы расійскай інспекцыі».

«Мы зараз узгоднім механізм правядзення інспекцый, гэтым займаецца мой намеснік. І цалкам верагодна, што і не будзем закрываць (увоз малочных прадуктаў). Калі з наступнага тыдня паедзем на інспектаванне таго, што выклікае ў нас падазрэнне, мы знойдзем агульную мову», — сказаў Данкверт.

Улічваючы, што спыніць беларускае малако планавалася 15 сакавіка, а інспекцыя плануецца «на наступным тыдні», — зразумела: Данкверт папужаў Сінявокую ды проста «здаў узад». Хоць і прадказальная, але перамога.

Праўда, якасць беларускай прадукцыі ў хуткім часе пагоршыцца, але вінаватай у гэтым будзе сама Расія. Бо іх спецыялісты пралабіявалі змены ў тэхрэгламенце ЕАЭС, згодна з якімі з 1 студзеня 2018 года сталі больш жорсткімі патрабаванні да складу транс-ізамераў тлустых кіслот у прадуктах (іншымі словамі — масла). У прадуктах іх цяпер павінна змяшчацца не больш за 2% ад усяго тлушчу ў прадукце. З-за гэтага натуральнае беларускае масла замяняецца не вельмі бяспечным пальмавым алеем.

Варта зазначыць, што пальмавы алей таннейшы за масла. Але і значна больш небяспечны, на Захадзе ён лічыцца канцэрагенам. Беларусь выбрабляе масла з лішкам, нават экспартуе яго, тады як Расія свае патрэбы ў масле не пакрывае, таму і вымушаная завозіць у тым ліку пальмавы алей. І, зразумела, неяк клапаціцца, каб «легалізаваць» не зусім бяспечную прадукцыю.

Са свайго боку, нашы спецыялісты дамагаюцца забароны пальмавага алею ці хаця б выключэння яго выкарыстання ў прадуктах для дзіцячага харчавання і харчавання для дашкольнікаў і школьнікаў. Адпаведныя прапановы накіраваны ў Саўмін, аднак гэта ўжо не такая простая працэдура — змены трэба ўносіць не ў беларускі закон, а ў тэхрэгламент ЕАЭС.

Яшчэ адна добрая навіна ў тым, што нарэшце пачынае працаваць «Вялікі камень». Адзін з рэзідэнтаў беларускага тэхнапарку — ТАА «Міжнародная тэхналагічная кампанія «Інтэлектуальнае абсталяванне» — паставіла ў Беларусь два беспілотныя аўтамабілі для правядзення выпрабаванняў.

«Цяпер мы актыўна прапрацоўваем пытанне з тым, каб пачаць выпрабаванні, напрацоўваем базу для руху гэтага праекта наперад, таму што ёны сапраўды вельмі цікавы», — адзначыў кіраўнік беларуска-кітайскага індустрыяльнага парку Аляксандр Ярашэнка.

Дамова з «Інтэлектуальным абсталяваннем» прадугледжвае, што інвестар на працягу 2018–2020 гадоў пабудуе навукова-даследчы цэнтр агульнай плошчай больш як 30 тысяч квадратных метраў. Аб'ём інвестыцый складзе каля 5 мільёнаў долараў.

Канешне, мы спазняемся — у Еўропе і ЗША беспілотныя аўто ўжо рассякаюць па аўтабанах. Але перспектыва ў такога цэнтру ёсць, бо ў нас пад бокам — вялікая Расія. А там, як вядома, няма дарогаў, ёсць толькі напрамкі. І як будуць паводзіць сябе беспілотныя аўто на тых прасторах — загадка, якую трэба разгадаць.

Так што ёсць пэўны пазітыў у жыцці. Галоўнае, каб гэтыя пазітыўныя змены былі трывалымі, і не скончыліся цягам аднаго тыдня. Але тут ужо трэба працаваць і нам.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Дзмітрый Паліенка

**Міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International абвясціла тэрміновую акцыю ў падтрымку беларускага вязня сумлення Дзмітрыя Паліенкі.**

Як падкрэслівае Amnesty International, 23-гадовы актывіст «апынуўся ва ўмовах, якія пагаршаюць стан яго здароўя», у прыватнасці, звязаныя з астмай і адсутнасцю медыцынскай дапамогі ў сувязі з ранай, якую вязень атрымаў у калоніі. Amnesty International таксама атрымала пераканаўчыя дадзеныя пра тое, што адміністрацыя калоніі ізалявала Паліенку з мэтай уздзеяння на яго праз жорсткае абыходжанне. Сярод карных мер — зняволенне ў адзіночнай камеры і скарачэнне ліміту грошай для асабістага карыстання. Акрамя таго, у палітвязня ёсць праблемы з атрыманнем і адпраўленнем карэспандэнцыі.

«У канцы снежня 2017 года яго сябры арганізавалі кампанію салідарнасці, але за перыяд навагодніх святаў ён не атрымаў ніводнай паштоўкі, — піша Amnesty International, — сукамернікам не рэкамендуецца размаўляць з ім, а тыя, хто гэта робіць, таксама атрымліваюць пакаранні з боку адміністрацыі калоніі».

Amnesty International заклікае ўсіх неабыякавых людзей звяртацца да беларускіх уладаў, у тым ліку да адміністрацыі калоніі №2 у Бабруйску, міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча і ў Генеральную пракуратуру з просьбай «неадкладна і безумоўна вызваліць Дзмітрыя Паліенку як вязня сумлення, пераслед якога звязаны выключна з яго мірнай дзейнасцю».

## Ніна Багінская

**Вядомая грамадская актывістка ўганараваная грамадскім медалём імя Сяргея Ханжанкова — за яе нязломную і прынцыповую пазіцыю і дзейнасць па адстойванні грамадскіх правоў і свабодаў у Беларусі.**



У дзень нараджэння палітычнага вязня 1960–1970-х гадоў Сяргея Мікалаевіча Ханжанкова (1942–2016 гг.), 13 сакавіка, у мінскім офісе Партыі БНФ прайшла вечарына памяці беларускага дысідэнта.

Сярод прысутных на мерапрыемстве былі вядомыя ў Беларусі асобы — прафесар Леанід Лыч, мастак Генадзь Драздоў, гісторык Ігар Ляльмкоў, пісьменнік Аляксандр Тамковіч і іншыя. На вечарыне з успамінамі пра Ханжанкова выступілі заснавальнік Руху Салідарнасці «Разам» Вячаслаў Сіўчык, рэжысёры Уладзімір Халіп і Валер Мазыскі, старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў, пісьменнік Ілля Копыл, паэт Славамір Адамовіч, палітык, адзін з лідараў БНК, былы палітвязень Мікола Статкевіч.

У другой частцы вечарыны адбылося першае ўганараванне медалём імя Сяргея Ханжанкова, аўтарам якога стаў вядомы беларускі скульптар — Гэнік Лойка. Заснаванне гэтай узнагароды было ініцыяванае Рухам салідарнасці «Разам» яшчэ два гады таму — на пахаванні Сяргея Мікалаевіча. Камітэт па ўзнагароджанні ў складзе 15 сяброў аднагалосна абраў лаўрэатку — сяброўку Сойма Руху салідарнасці «Разам» Ніну Багінскую.

## Уле Эйнар Б'ёрндален

**Знакамітаму нарвежскаму біятланісту маглі дазволіць выступіць за Беларусь на Алімпіядзе ў Пхёнчане. Але ён адмовіўся.**



Як вядома, 44-гадовы спартсмен не быў уключаны ў склад алімпійскай зборнай Нарвегіі, паколькі паказваў невысокія вынікі на этапах Кубка свету. У Пхёнчхан ён паехаў разам з беларускай зборнай, дапамагаў сваёй жонцы Дар'і Домрачавай, абкатваў лыжы для іншых біятланістаў. Цяпер жа высвятляецца, што Міжнародны алімпійскі камітэт і Міжнародны саюз біятланістаў маглі адмяніць каранцін для нарвежца пры яго пераходзе ў беларускую зборную.

«Я нарвежац, было б складана выйсці на стадыён у беларускай форме, — кажа Б'ёрндален. — Не думаю, што гэта было б правільна. Таму маё рашэнне было апраўданае. У выніку рашэнне прыняў я сам. Я падзякаваў, але адмовіў. Я праве́ў так шмат выдатных спаборніцтваў за Нарвегію, так што гэта было б няправільна».

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Чаму Лукашэнка не змог запусціць заводы

**Тэмпы росту ВУП у Беларусі сёння вышэй, чым у многіх прамыслова развітых краінах, аднак яны развіваюцца, а мы — не.**

Тэлефаную студэнцкаму прыяцелю, які ўсё сваё свядомае жыццё прапрацаваў на Мінскім заводзе шматслойных друкаваных платаў (МЗШДП). Быў такі флагман саюзнага маштабу, што меў найноўшае французскае абсталяванне. Пра былыя поспехі МЗШДП нагадвае 9-павярховы адміністрацыйны корпус на вуліцы Прытыцкага ў Мінску.

Вытворчасць друкаваных платаў, паводле інфармацыі маёй інсайдарскай крыніцы, была спыненая ў лістападзе 2015 года. Маральна і фізічна састарэлае абсталяванне разабралі. Кампаненты, якія змяшчаюць золата, былі здадзеныя на перапрацоўку. Дакументацыя — знішчаная.

А што было рабіць, калі патрэба ў такіх вырабах у Беларусі істотна знізілася, а тую, што засталася, працяй задавальняць за кошт кітайскага імпарту. Гэта на практыцы і робіцца.

Лёс МЗШДП — не выключэнне, а правіла. Ну як тут не пагадзіцца з наступнай заявай адзінага палітыка (АП): «Так, "беларуская мадэль развіцця", або "беларускі шлях развіцця" аб'ектыўна існуе. Усё, што сёння мы маем у эканоміцы, у сацыяльнай і іншых сферах, вынік таго, што мы ўсе гэтыя гады ішлі сваім шляхам, мы жылі сваім розумам. Мы не слухалі "дактароў" з Міжнароднага валютнага фонду, якія прапісвалі лекі, што больш небяспечныя за саму хваробу».

## Дзяржава ў ролі галоўнага інвестара

У тым, што «беларуская мадэль» створаная сваім розумам, сумнявацца не даводзіцца. Але якое дачыненне яна мае да развіцця?

За развіццё не варта прымаць рост. Сярэднегадавы індэкс прыросту ВУП за тры пяцігодкі (1996–2010) у Беларусі склаў 7%, што не перашкодзіла МЗШДП і многім яго высокатэхналагічным таварышам па няшчасці дэградаваць (але гэта так, рэмарка, якой не варта надаваць асаблівага значэння).

Большасць прамыслова развітых краін 7-працэнтнаму тэмпу эканамічнага росту маглі б толькі пазайздросціць. Гледзячы на такую дынаміку, самы час было б казаць пра нараджэнне ў геаграфічным цэнтры Еўропы калі не новага эканамічнага «тыгра», дык, ва ўсялякім разе, новага эканамічнага «цуду». Дарэчы, асобныя




аптымісты ад улады гэтым і займаліся.

Шкада толькі, што на працягу апошніх гадоў дадзеная нам у адчуваннях рэальнасць адмаўляецца прадстаўляць новыя падставы для аптымізму.

Крыху афіцыйнай статыстыкі. Калі ў 2000 годзе было выраблена 5,5 тысячы станкоў для апрацоўкі металаў, дык у 2017-м — 1,6 тысячы. Пік вытворчасці трактароў прыйшоўся на 2012 год — 71 тысяча. За наступныя пяць гадоў вытворчасць «жалезных коней» для сельскай і лясной гаспадаркі скарацілася амаль удвая — да 38,3 тысячы. І такая сітуацыя практычна ва ўсіх папулярных яшчэ ў савецкія гады прамысловых брэндаў.

Але чаму плюс змяніўся на мінус? На сваіх першых прэзідэнцкіх выбарах будучы АП перамог не ў апошнюю чаргу дзякуючы абяцанню «запусціць заводы». Для рэалізацыі абяцанага дзяржава ўзяла на сябе ролю галоўнага інвестара, ад якой і сёння не адмаўляецца. Адкрыем прэс-рэліз, прысвечаны сакавіцкай справаздачы ўрада, Нацыянальнага банка, аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама: «У гэтых мэтах (гаворка ідзе пра стварэнне новых прадпрыемстваў) наша небагатая дзяржава па крупінках збірае грошы і накіроўвае іх у інвестыцыйныя праекты».

Ці не з-за гэтых «крупінак» дзяржаўны доўг, згодна з інфармацыяй, агучанай АП, у 2017 годзе рос хутчэй, чым эканоміка? Канкрэтных лічбаў ён, на жаль, не прывёў, таму мне давялося шукаць інфармацыю на сайце Нацыянальнага банка. Прыводжу вынік свайго пошуку: «Дзяржаўны доўг РБ на 1 студзеня 2018 г. склаў 42,2 млрд. рублёў і павялічыўся ў параўнанні з пачаткам 2017 г. на 5,2 млрд. рублёў, або на 14,1%». Што тычыцца ВУП, то за мінулы год ён вырас на 2,4%. Такім чынам, тэмпы росту доўгу апынуліся ў 5,9 разы вышэй за тэмпы росту эканомікі!

Не ў каня атрымаўся корм. Нагадаю, у гэтым годзе, згодна з планамі ўрада, эканоміка павінна вырасці на 3,5%. Наколькі ж пры гэтым павялічыцца дзяржаўны доўг?

## Ад перадавых галін да перадавых тэхналогій

У якасці каментара працытую вядомага расійскага эканаміста Уладзіміра Мау: «Цяпер тэхналагічны рывок нельга забяспечыць шляхам канцэнтрацыі сродкаў у руках дзяржавы. У індустрыяльную эпоху краіны, што паспяхова вырашалі задачы мадэрнізацыі, якая даганяе (Германія, Японія, СССР), вылучаліся падвышанай доляй бюджэту ў ВУП, калі параўноўваць з самымі развітымі краінамі. У апошнія ж паўстагоддзя ўсе паспяховыя прыклады скарачэння разрыву краінамі, якія даганяюць, — гэта выпадкі, калі бюджэтная нагрузка была ніжэйшай, чым у развітых краінах».

У чым галоўная асаблівасць сучаснасці? У хуткасці зменаў. Не паспеў пакупнік нарадавацца апошняй мадэлі iPhone — а яна ўжо састарэла. Хуткая змена тэхналогій робіць неэфектыўнымі вытворчасці, у якія трэба гадамі «па крупінках збіраць грошы» для інвеставання, а потым дзесяцігоддзямі чакаць, калі яны акупяцца.

Калі тэхналогіі мяняюцца некалькі разоў за адно пакаленне, праца ў рамках доўгатэрміновых стратэгій раўназначная кансервацыі адставання. У адрозненне ад індустрыяльнай эпохі, у постіндустрыяльную немагчыма вызначыць галіны, у якія дзяржава ўкладала б рэсурсы і атрымлівала пры гэтым станоўчы эфект.

Гэта ў СССР любілі разважаць пра перадавыя галіны (ракетабудаванне, электроніка ды інш.). Сёння мае сэнс абмяркоўваць перадавыя тэхналогіі. Яны могуць быць у любой галіне. Возьмем, да прыкладу, сельскую гаспадарку. У 2016 годзе нямецкі хімічны і фармацэўтычны гігант «Bayer» набыў найбуйнейшага ў свеце вытворцу генетычна мадыфікаваных прадуктаў «Monsanto» за 66 мільярдаў долараў, г.зн. па цане расійскага «Газпрома».

Новыя тэхналогіі ствараюць не проста новыя правілы гульні на рынку, але фармуюць новае палітычнае і сацыяльнае асяроддзе, якое складаецца з адносна аўтаномных і незалежных ад улады галін сацыяльнага жыцця (эканоміка, навука, культура, адукацыя, суд). Сувязь паміж імі ў эканамічна паспяховых краінах ажыццяўляецца праз добраахвотны абмен рэсурсамі, прававымі нормамі і маральнымі прынцыпамі.

Што тычыцца «беларускай мадэлі», якая жыве сваім розумам, дык, паводле ўласнага прызнання яе галоўнага архітэктара, ён з'яўляецца прыхільнікам таго, што «дзяржаве ёсць справа да ўсяго». Ні пра якую аўтаноміі пры гэтым не можа быць і гаворкі. Таму ў якасці адзінага ўмацавальніка выступае ўладная «вертыкаль». Гэты па-свойму стройны і дасканалы механізм здольны кіраваць (камандаваць) выключна ў "ручным" рэжыме. Толькі вось на развіццё ён працаваць не здольны.

## «Гарызонт» супраць Panasonic

Прыхільнікі Сталіна — а такіх у Беларусі хапае — любяць разважаць пра эканамічны рывок, дасягнуты ва ўмовах разрухі, галечы і масавай непісьменнасці пад кіраўніцтвам "бацькі народаў". Рывок быў забяспечаны за кошт будаўніцтва ў гады даваенных пяцігодак тысяч перадавых для свайго часу прадпрыемстваў. Сёння ж, калі што і будуецца, дык выключна гандлёвыя цэнтры.

У 1939 годзе гарадское насельніцтва ў БССР складала 20,8% (79% — у 2016 годзе) і толькі 24 студэнты прыходзілася на 10 тысяч насельніцтва (471 студэнт у 2011 годзе), што, аднак, не перашкодзіла перад пачаткам Другой сусветнай вайны выраблюць у рэспубліцы 10% металарэзных станкоў ад агульнасаюзнай вытворчасці.

Цікавая заканамернасць! Чым больш гарадскога насельніцтва і чым вышэйшы ўзровень адукацыі — тым больш праблем у станкабудаванні. Растлумачыць гэты парадокс толькі адной прычынай немагчыма, што не перашкаджае мне вылучыць галоўную. Сталінская эканоміка была надзейна абароненая ад знешняй канкурэнцыі, дый унутранай канкурэнцыі практычна не было. Таму на прадукцыю любога прадпрыемства, незалежна ад яе якасці, заўсёды быў павышаны попыт.

Людзям майго пакалення не трэба тлумачыць, што на пабытавай мове ў СССР азначала слова «фірма». Для моладзі ж растлумачу, што так называлі любы прадмет шырспажыву, выраблены за мяжой. Да перабудовы людзі былі гатовыя з ночы займаць чэргі за італьянскімі ботамі, фінскімі гарнітурамі або французскай касметыкай. Пры гэтым канкрэтны вытворцаботаў значэнне не меў, галоўнае, каб яны былі італьянскімі і ўжо таму — «фірмовымі».

А што мы маем сёння? Са 100 прададзеных у 2017 годзе тэлевізараў толькі 8 былі айчыннай вытворчасці. А колькі яшчэ тэлевізараў завезлі беларускія аматары шопінгу з Польшчы і Літвы?

Працаўнікам «Гарызонту» і «Віцязя» не пазайздросціш. Тое, што яшчэ ўчора праходзіла па катэгорыі абстрактнай «фірмы», сёння даступна ў выглядзе Sony, LG, Samsung, Panasonic. Што можна супрацьпаставіць гэтай дружнай кампаніі? Ну хіба што беларуска-расійскую праграму «Саюзны тэлевізар».


Фота www.news.tut.by

**ЕАЭС — гэта эканамічны ці геапалітычны саюз? Ён дзейнічае паводле эканамічных правілаў, ці з'яўляецца механізмам кантролю Масквы над постсавецкай прасторай? Шчырая рэпліка расійскага прэм'ера — «на фіг нам такія прынцыпы патрэбныя» — вельмі паказальная**

# Тайговы саюз

## Дзмітрый Мядзведзеў: «На фіг нам такія прынцыпы патрэбныя»

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

**Здавалася, гэтым годам нейкага вострага канфлікту ў беларуска-расійскіх дачыненнях чакаць не варта. Як правіла, галоўнай праблемай, вакол якой адбываецца супрацьстаянне паміж Мінскам і Масквой, з'яўляецца пытанне энергарэсурсаў. Беларусь, як звычайна, імкнецца атрымаць расійскі газ і нафту на як мага больш ільготных умовах, Расія млява супраціўляецца. Гэтым разам усе энергетычныя пытанні вырашаныя да 2019 года.**

А крамя таго, Крамлю ў 2018 годзе не да Беларусі. Прэзідэнцкія выбары, Чэмпіянат свету па футболе, канфлікт з ЗША цалкам займаюць увагу расійскага кіраўніцтва. Здавалася, што ў такіх варунках Маскве не да сваркі з Беларуссю.

Тым не менш, вайна пачалася. Чарговая «малочная». Канфлікт пачаўся як эканамічны, але — як звычайна адбываецца ў беларуска-расійскіх адносінах — хутка выйшаў на палітычны ўзровень.

### Чыя «малочка»?

Калі казаць пра афіцыйны публічны кантэкст, то ўсё пачалося 16 лютага ў Сочы на сустрэчы кіраўніка ўрада Расіі Дзмітрыя Мядзведзева з губернатарамі ў межах Расійскага інвестыцыйнага форуму. Там прэзідэнт Татарстана Рустам Мініханаў звярнуўся да прэм'ера з просьбай абмежаваць імпарт сухога малака, бо вытворцы малочнай прадукцыі Татарстана не вытрымліваюць цэнавую канкурэнцыю з іншымі пастаўшчыкамі. Гэтая рэспубліка РФ займае па аб'ёмах вытворчасці малака першае месца ў Расіі.

У мінулым годзе Расія актыўна імпартавала сухое малако. Прычым, у гэтай таварнай групе Беларусь была далёка не лідарам: вялікія аб'ёмы (у пяць разоў большыя, чым з Беларусі) ішлі з вельмі аддаленых рэгіёнаў — Аўстраліі і Новай Зеландыі. У выніку ўзнікла праблема запасаў сухога малака на складах.

Але галоўнай ахвярай апынулася чамусьці Беларусь. На той сустрэчы Мядзведзева з губернатарамі пра нашу краіну нічога не згадвалася. Аднак расійскі прэм'ер у сваім выступе меў на ўвазе менавіта Беларусь: «Я дам даручэнне ў гэтым разабрацца, мне цяжка запярэчыць супраць тых аргументаў, якія прывёў кіраўнік Татарстана... Так, у нас агульны рынак з сябрамі, партнёрамі з ЕАЭС, больш за тое, мы не можам яго абмяжоўваць у сілу падпісанага пагаднення, але павінны думаць пра нашых грамадзян. Калі мы блакуем пастаўкі нармальнага малака і адкрываем рынак для сухога малака толькі дзеля захавання эканамічных прынцыпаў, то на фіг нам такія прынцыпы патрэбныя».



Фота www.toonpool.com

### Стоп Беларусь

Выконваючы даручэнне прэм'ера, Рассельгаснагляд 22 лютага забараніў увоз з Беларусі малака, вяршкоў і іншай малочнай прадукцыі з 26 лютага. Пазней тэрмін дзеяння забароны быў перанесены на 6 сакавіка, а потым — на 15 сакавіка. Гаворка ідзе менавіта пра малочную сыравіну.

У заяве прэс-службы Рассельгаснагляду ад 22 лютага прычынамі ўвядзення забароны была названая дрэнная якасць беларускай малочнай прадукцыі, шкодныя дадаткі і іншае. Здавалася б, усё як звычайна. Колькі ўжо было падобных прэтэнзій.

Але незвычайнасць сітуацыі гэтым разам выявілася ў тым, што ў абарону Беларусі выступіла Еўразійская эканамічная камісія (ЕЭК). Дзеянні Рассельгаснагляду парушылі правілы Мытнага саюзу, прынцыпы функцыянавання адзінай эканамічнай прасторы, зоны вольнага гандлю, і ўвогуле, разбураюць адзіны рынак у межах ЕАЭС. Паводле гэтых правілаў, тавары ў межах краін-чальцоў Еўразійскага эканамічнага саюза павінны перамяшчацца беспярэшкодна (ёсць выключэнні, але гэта не той выпадак). Таму кіраўнікам адпаведных ведамстваў Беларусі і Расіі была дасланая тэлеграма ад імя ЕЭК, у якой РФ прапанавалася не ўводзіць абмежаванні на пастаўкі беларускай «малочкі». Таксама прагучала адпаведная заява міністра прамысловасці і аграпрамысловага комплексу ЕЭК, прадстаўніка Беларусі Сяргея Сідорскага.

І тады загучала цяжкая артылерыя. Залп у адказ быў добра падрыхтаваны. 24 лютага на сайце Рассельгаснагляду з'явілася вялікая заява. Тэлеграма ЕЭК была інтэрпрэтавана як рэакцыя асобных кіраўнікоў Еўразійскай эканамічнай камісіі, а на адрас Беларусі было вылучана новае, і больш сур'ёзнае абвінавачванне.

Паводле Рассельгаснагляду, былі выяўленыя факты паставак у Расію беларускімі кампаніямі забароненай РФ малочнай прадукцыі з Украіны і краін ЕС пад выглядам вытворцаў краін, якія не трапілі пад дзеючыя абмежаванні (Іран, Македонія, Сан-Марына і Кітай). Расійскае ведамства правяло адмысловае расследаванне і выявіла, што гэтая прадукцыі паступае на тэрыторыю Расійскай Федэрацыі па фальсіфікаваных дакументах. Інакш кажучы, беларускія дзяржаўныя органы былі абвінавачаныя ў падмане, фальсіфікацыях, спробах зрыву палітыкі эканамічных санкцый, якія Расія прымяняе супраць непажаданых дзяржаў. Фактычна — гэта ўжо палітычныя прэтэнзіі ў несаюзніцкіх паводзінах.

### Эканоміка ці палітыка?

І гэтая сітуацыя зноў вяртае нас да больш шырокіх пытанняў. ЕАЭС — гэта эканамічны ці геапалітычны саюз? Ён дзейнічае паводле эканамічных правілаў і прынцыпаў ці з'яўляецца механізмам кантролю Масквы над постсавецкай прасторай? Шчырая рэпліка расійскага прэм'ера — «на фіг нам такія прынцыпы патрэбныя» — паказальная.

Менавіта Расія была галоўным ініцыятарам стварэння спачатку Мытнага саюза, затым — ЕАЭС, і ўсяляк фарсіравала гэты працэс. А цяпер сама ігнаруе тыя правілы, якія палягаюць у аснове гэтай арганізацыі. Кіраўнікі РФ нават не хаваюць, што яны плявалі на прынцыпы функцыянавання ЕАЭС.

Цалкам натуральна, што Лукашэнка, выступаючы на нарадзе 2 сакавіка, звярнуў увагу менавіта на механізм функцыянавання ЕАЭС і перанёс канфлікт у публічную прастору, вынес на палітычны ўзровень: «Гэта ўжо становіцца смешным. Сродкі масавай інфармацыі ў нас ёрнічаюць — што гэта ў вас за «тайговы» саюз такі, што стаўленне да краін-сябраў больш жорсткае, чым да іншых? Я не кажу пра малако, якое стала нахабным палітычным інструментам зусім нядаўна. Нават наш цэмент не можам свабодна прадаваць. Вось гэта эканамічны саюз!»

Якая цана пытання для Беларусі? У 2017 годзе беларускія суб'екты гаспадарання паставілі ў Расію той прадукцыі, якая цяпер забараняецца, на 656 мільёнаў долараў.

Больш за тое, 27 лютага з'явілася інфармацыя, што Рассельгаснагляд мае прэтэнзіі да сямі беларускіх прадпрыемстваў, якія экспартуюць у Расію ялавічыну.

6 сакавіка кіраўнік Рассельгаснагляду Сяргей Данкверт выступіў з новай пагрозлівай заявай. Паводле яе, Беларусь можа сутыкнуцца з новымі цяжкасцямі пры пастаўках прадукцыі жывёлагадоўлі, у прыватнасці, малочнай прадукцыі, у РФ пасля 1 ліпеня 2018 года, калі пачне дзейнічаць электронная ветэрынарная сертыфікацыя. А беларускія прадпрыемствы да яе не гатовыя. «Мы проста не будзем такую прадукцыю ўпускаць», — адзначыў Данкверт.

Але ў нармальным эканамічным саюзе такія рэчы, як электронная сертыфікацыя, павінны ўводзіцца сінхронна ўсімі чальцамі арганізацыі.

### Усё ж палітыка?

Прадстаўнікі ўрадаў вядуць упартыя перамовы ў Маскве. Беларускую дэлегацыю ўзначальвае віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы. Пасля вяртання з Масквы ён паведаміў, у чым можа быць дасягнуты кампраміс. Плануецца, што ў сакавіку адбудзецца сумесная калегія міністэрстваў сельскай гаспадаркі Беларусі і Расіі, на якой будуць узгодненыя «балансы на сухое малако». То бок, мяркуецца вызначыць дакладныя аб'ёму сухога малака, якія можа ўвезці Беларусь. І не больш. Інакш кажучы, нашу краіну прымушаюць пайсці на самаабмежаванні паставак малочнай сыравіны.

А як жа эканамічны саюз, адсутнасць межаў, адзіная эканамічная прастора, вольны гандаль і свабодная канкурэнцыя? Няма.

Можна зразумець абурэнне Аляксандра Лукашэнкі, які падчас сустрэчы з Русым заявіў: «Хачу сказаць, што без адказу такія рэчы не застануцца. Мы проста трываць гэта не будзем».

Кіраўнік Беларусі чакае завяршэння перамоваў у Маскве. Але, калі пытанне не будзе вырашана станоўча, вельмі верагодна, што ён пастараецца сапсаваць Уладзіміру Пуціну яго выбарчую кампанію. Скандал цяпер, падчас прэзідэнцкай кампаніі, расійскаму лідару зусім не патрэбны. Таму, калі пытанне будзе вынесена на ўзровень кіраўнікоў дзяржаў, Масква можа пайсці на саступкі.

Але Лукашэнку трэба спяшацца. Выбары ў Расіі — ужо 18 сакавіка. Скандал трэба ўсчынаць ці пагражаць ім да гэтай даты. Пасля яе палітычныя акцыі ў руках беларускага кіраўніка моцна патаннеюць.



**Турэмная культура ўкараняецца нават у мысленні. У разуменні зэка амаль адсутнічае панятак грамадскай роўнасці. Кожны, хто побач з табой, — альбо вышэйшы за цябе, альбо ніжэйшы. І паводзіць сябе з ім трэба адпаведна**

# Турма і воля: культурны абмен

Мікалай ДЗЯДОК

**Яшчэ Мішэль Фуко адзначыў, што турмы, як і іншыя закрытыя іерархічныя ўстановы, — гэта не толькі месцы для ізаляцыі асоб, непажаданых для грамадства, але і важныя інстытуты, праз якія дзяржава кантралюе нашы паводзіны. Але для таго, каб стаць суб'ектам гэтага кантролю, трапляць у турму зусім не абавязкова.**

Апошнім часам турма робіцца адным з частых ньюсмейкераў. Нават без адмысловага даследавання, можна пабачыць, што ледзь не кожны дзень мы даведваемся, што нехта атрымаў турэмны тэрмін, чарговы палітвязень патрапіў пад дысцыплінарнае пакаранне, кагосьці выпусцілі, кагосьці арыштавалі, а на кагосьці завялі крымінальную справу. Месца, дзе людзей ізалююць ад грамадства, стала арганічнай часткай гэтага грамадства: падобнага кшталту навіны ўжо не ўспрымаюцца як нешта шакуючае і незвычайнае. На інфармацыйным і ўяўным узроўні пенітэнцыярная сістэма робіцца бліжэй, з далёкага і незразумелага чынніка яна ператвараецца ў прадмет штодзённай рэчаіснасці, і асабліва — палітыкі.

Але ж турма — спецыфічная і няпростая прастора, правілы жыцця ў якой адрозніваюцца ад такіх на волі. Шэраг маральных нормаў і каштоўнасцяў, прынятых там, могуць падацца нам пачварнымі і дэструктыўнымі, і часта сапраўды такімі з'яўляюцца. Каб распазнаць магчымыя наступствы ад сутыкнення «вольнага» жыцця і турэмнага ў інфармацыйнай, грамадскай і побытавай прасторы, трэба зразумець, у чым сутнасць уплыву турмы на наша грамадства, якія яго праявы, да чаго ён вядзе ці ўжо прывёў? Магчыма, адказы на гэтыя пытанні дадуць разуменне таго, што адбываецца зараз з Беларуссю і беларусамі.

### Турма як палітычны інстытут

Турма — не толькі сацыяльны, але і палітычны інстытут. І разглядаць яе ў такім рэчышчы можна з трох пазіцый.

Першая — класічная. Турма — месца ізаляцыі дзяржавай людзей, якія нясуць прамую для яе, дзяржавы, небяспеку. Гэта (у залежнасці ад палітычнага рэжыму) паўстанцы, прыхільнікі гвалтоўных метадаў палітычнай барацьбы, палітычныя актывісты, праваабаронцы, а таксама фальшываманетчыкі, карупцыянеры, гандляры зброяй.

Другая пазіцыя была распрацаваная ўжо прыгаданым Мішэлем Фуко. Яе сутнасць у тым, што турма — гэта месца, дзе ўсталёўваецца поўны кантроль над асобай і ўсёй яе жыццядзейнасцю, дзе асоба пазбаўляецца суб'ектнасці і знаходзіцца ў поўным падпарадкаванні наглядчыкаў. Распрацаваныя ў ёй дысцыплінарныя практыкі часам вельмі прыдатныя для ажыццяўлення кантролю над «вольным» насельніцтвам ужо ў маштабах краіны.

І трэцяя пазіцыя — дыскурсіўная. Турма — замкнёная спецыфічная прастора, якая характарызуецца моцнай іерархіяй і нестандартнай мараллю. Яна ўяўляе сабой, такім чынам, генератар пэўнага грамадскага дыскурсу, пэўнага тыпу адносінаў, каштоўнасцяў, традыцый і сэнсаў. Яны, што цалкам натуральна, пераносяцца, як вірусная інфекцыя, не толькі ад зэкаў да зэкаў, але і ад зэкаў да наглядчыкаў. Зэкі з часам вызваляюцца і вяртаюцца на волю, наглядчыкі бываюць там штодзень. Пры вялізарнай ролі масавай культуры і інтэрнэта, прыгаданыя вышэй сэнсы і каштоўнасці разносяцца па ўсяму грамадству, аказваючы на яго моцны ўплыў, які дагэтуль, на мой погляд, яшчэ не вывучаны і недаацэнены.

**Пераважная большасць зэкаў, з якімі мне даводзілася размаўляць, пераконвала мяне, што «Путин красава», а Крым «правильно сделалали, что забрали». Нярэдкія сімпатыі да Сталіна і царызму. З дыялогаў было бачна, што іх вельмі прыцягвае ідэя моцнага лідара, а дыктатура і тыранія зусім не пярэчаць іх унутранаму свету**

### Чым ёсць турэмная культура?

Пры разглядзе прыгаданых вышэй дыскурсаў, грамадскіх адносінаў, каштоўнасцяў, створаных у турме, буду для прастаты абагульняць іх пад словам «культура». Пад турэмнай культурай, такім чынам, разумеюцца і «паняцці», і стыль стасункаў, і слэнг, і ўсё да іх блізкае.

На чым жа стаіць турэмная культура? Яе стрыжань — іерархія. Ён пранізвае ўсё турэмнае жыццё, усе яго сферы: міжасабовыя стасункі, зносіны з адміністрацыяй, побыт. Турэмная культура ўкараняецца нават у мысленні, што вельмі хутка разумееш пасля размоваў з зэкамі. У разуменні зэка (асабліва таго, хто сядзіць ужо доўга), амаль адсутнічае панятак грамадскай роўнасці. Кожны, хто побач з табой, — альбо вышэйшы за цябе, альбо ніжэйшы. І паводзіць сябе з ім трэба адпаведна: альбо падпарадкоўвацца, альбо прыніжаць — каб умацаваць і падкрэсліць сваё месца ў пірамідзе.

Такі тыпаж выдатна апісаны Эрыхам Фромам як садамазахісцкая, альбо аўтарытарная, асоба. На падставе свайго досведу магу сказаць, што аўтарытарнымі асобамі ў рознай ступені можна назваць пераважную большасць зэкаў. Нават той, хто першапачаткова трапіў у турму, не будучы такім, — хутка мімікруе пад абставіны, каб не атрымліваць псіхалагічнага дыскамфорту, выбіваючыся з агульнапрынятага стэрэатыпу паводзін і мыслення.

Следства іерархіі — тое, што турэмны калектыў з'яўляецца вельмі агрэсіўным асяроддзем, дзе ўвесь час ідзе — то з большай інтэнсіўнасцю, то з меншай — барацьба за месца. Любая магчымасць узвысіцца над іншым (прынізіць, «падкалоць», пазбавіць правоў, выставіць дурнем і г.д.) звычайна адразу ж выкарыстоўваецца. Пры гэтым у многіх выпадках падняцца з ніжэйшых ступеняў іерархіі да вышэйшых немагчыма (напрыклад, пры знаходжанні ў касце г.зв. «пеўняў»).

Іерархічнасць супольнасці і агрэсіўнасць асяроддзя непазбежна спараджаюць культ сілы, мачызм. Быць моцным, брутальным, падкрэслена маскулінным — ганарова, крута. Дэманстраваць нахабства, агрэсіўнасць, гатоўнасць ужыць сілу, прыніжаць слабых — найважнейшыя спосабы павысіць свой статус у калектыве. Пажаданае стаўленне асяроддзя да цябе: паважліва-баязлівае. Баяцца моцнага — нармальна.

Цікава, што гэтая характарыстыка знаходзіць сваю праяву і ў сферы палітычных перакананняў: пераважная большасць зэкаў, з якімі мне даводзілася размаўляць пра палітыку, пераконвала мяне, што «Путин красава», а Крым «правильно сделалали, что забрали». Нярэдкія сімпатыі да Сталіна і царызму. З дыялогаў з зэкамі было бачна, што іх вельмі прыцягвае ідэя моцнага лідара, а дыктатура і тыранія зусім не пярэчаць іх унутранаму свету.

Пагарда да слабейшых, сумешчаная з практыкай іх няспыннага прыніжэння, асабліва праз сексуальны гвалт. Сюды ж варта аднесці лютую гамафобію і сексізм. Гэта ёсць лагічным працягам папярэдніх пунктаў. Культ моцнага заўсёды сумешчаны з пагардай і нянавісцю да слабейшага, які ў падобнага кшталту культурах падвяргаецца няспынным кпінам і здзекам — і яны тым большыя, чым ніжэй асоба знаходзіцца ў сацыяльнай пірамідзе.

На ролю слабейшага падыдзе любая асоба, няздольная пастаяць за сябе фізічна, баязлівая альбо з недастатковa цвёрдым характарам, каб супрацьпаставіць сябе агрэсару. А ўлічваючы, што арганічнай часткай аўтарытарнага мыслення ў нашай культуры нярэдка з'яўляюцца патрыярхальныя стэрэатыпы, не дзіва, што ў зэкаўскай культуры жанчына лічыцца чалавекам другога гатунку. Пра гэта кажуць і зэкаўскія прымаўкі (якіяадначасова з'яўляюцца прынцыпамі турэмных «паняццяў»): «нет

веры мусорам и бабам», «с бабы спроса нет». Яны маюць на ўвазе, што жанчына не з'яўляецца суб'ектам нефармальнага турэмнага «права», бо не ёсць паўнавартаснай асобай.

Гісторыі ад арыштантаў пра тое, як яны збівалі сваіх жонак ці дзяўчат можна пачуць даволі часта — і распавядаюць яны, звычайна, як яшчэ адзін прыклад сваіх маскулінных якасцяў, агрэсіўнасці, як сродак умацаваць свой статус сярод астатніх. Пагардлівыя эпітэты для вызначэння жанчын «тёлкі», «кобылы», «соскі» распаўсюджаны больш чым паўсюдна.

Варта адзначыць, што пагарда да жанчын непазбежна вядзе да пагарды да ўсяго жаноцкага. Напрыклад, параўнанне з «бабай», не кажучы ўжо пра параўнанне з «пі...м», — цяжкая знявага ў зэкаўскай культуры. А ў выпадку, калі зэка назвалі «пеўнем», «пі...м» і таму падобным эпітэтам, зэк мусіць адразу біць у твар, у адваротным выпадку ягоны статус у калектыве моцна знізіцца.

Такім чынам, дыскурсіўнымі, каштоўнаснымі слупамі турэмнай культуры з'яўляюцца: усёабдымная, усюдысная іерархічнасць; культ грубай сілы і агрэсіі; пагарда да слабых, найперш выражаная праз сексізм і гамафобію.

## З турмы на волю

На сённяшні дзень у Беларусі ў месцах пазбаўлення волі знаходзяцца каля 37 тысяч чалавек, з якіх 94,2% — мужчыны. Ледзь не ў кожнай 100-й беларускай сям'і нехта з чальцоў знаходзіцца ў дадзены момант за кратамі. Калі ж улічым, колькі чальцоў сямей прайшлі праз турэмнае зняволенне ў мінулым, лічба будзе нашмат большай, хаця і цяжкай для падліку.

Пасля адбыцця турэмнага тэрміну зэкі — прынамсі, на некаторы час, — вяртаюцца на волю, дзе кантактуюць са сваімі роднымі і сябрамі. Аднак вырашальным фактарам распаўсюду турэмнай культуры ў грамадстве, на мой погляд, з'яўляецца масавая культура.

Што я да яе адношу?

**Шансон**, які гучыць паўсюдна ў грамадскім транспарце, установах грамадскага харчавання, аўтамабілях, па тэлебачанні і яшчэ шмат дзе. Пераважная большасць песень гэтага жанру так ці інакш апяваюць крымінальныя каштоўнасці, папулярызуюць турэмны жаргон і сюжэты.

**Фільмы і серыялы**. Жанр, які ў вялізарнай колькасці прадстаўлены на расійскіх каналах, — гэта серыялы пра міліцыянтаў і бандытаў, дзе, паводле маіх уласных назіранняў, бандыты часта прадстаўленыя хоць і адмоўнымі персанажамі, але з пэўным флёрам рамантыкі і ўласнай своеасаблівай справядлівасцю. Пра шалёную папулярнасць у свой час (да і сёння) такіх фільмаў, як «Бумер» і «Брыгада», няма чаго і казаць. Калі «Бумер» толькі выйшаў, я яшчэ вучыўся ў школе — і ў маім класе ён на працягу некалькіх месяцаў заставаўся тэмай для абмеркавання. Дзеці цытавалі герояў фільму і капіравалі іх паводзіны.

Пры гэтым варта адзначыць, што, відавочна, колькасць фільмаў і серыялаў, якія рамантызуюць крымінальную субкультуру, не скарачаецца.

**Сацсеткі і моладзевы слэнг**. Гэта адносна новы трэнд, які, паводле маіх назіранняў, развіўся за апошнія 7–8 гадоў. Калі я пачаў актыўна асвойваць сацсеткі, дык са здзіўленнем заўважыў папулярнасць тэматыкі турмы, зоны і «паняццяў», жартаў пра «пеўняў» і «блатных», іранічную, але ўсе ж рамантызацыю крымінальнага свету. Напрыклад, на пошук па запыце «АУЕ» (Арестантский уклад един — распаўсюджаны зэкаўскі слоган) «УКантакце» выдае 2848 супольнасцяў. І гэта не лічачы аграмаднай колькасці мемаў пра турму.

Абраза «певень» даўно перакачавала з турэмных сцэнаў у размовы падлеткаў «УКантакце», гэтаксама як і «Вечер в хату!» (формула, з якой пачынаюцца «малявы») у якасці вітання.

Так зэкаўская культура — хай і на даволі павярхоўным узроўні — крочыць далёка за межы турэмных кратаў.

## Турэмная культура змяняе вольную

Пранікненне турэмнай культуры з уласцівымі ёй каштоўнасцямі ў «вялікае» грамадства не можа не паўплываць на сацыяльныя адносіны, нормы паводзін і дыскурс, які ў ім пануе. Уплыў турмы адчуваецца шмат у чым. Перш за ўсе ў паводзінах той моладзі, якая рэгулярна стасуецца з былымі зняволенымі альбо мае праблемы з законам — маргінальная моладзь з ускрайкаў гораду і працоўных раёнаў — тыя самыя «гопнікі».

Акрамя крымінальнага слэнгу, яны пераймаюць і крымінальныя метады вырашэння канфліктаў («стрелы», «забивоны», «выставление на счетчик», наўпроставы гвалт пры першай магчымасці), культ сілы і, канешне, лютую гамафобію і мачызм, якія праяўляюцца як у грэблівым і агрэсіўным стаўленні да тых, хто не падобны на іх знешне (напрыклад, удзельнікаў розных моладзевых субкультур, асабліва тых, хто эксперыментуюць са сваім знешнім выглядам: панкаў, металістаў, эма і г.д.) і ў пагардлівым стаўленні да жанчын, нармалізацыі гвалту і знявагаў у дачыненні да іх.



**З нармалізацыяй турмы ў грамадскай свядомасці прыходзіць і знікненне ўсялякай крытыкі на адрас гэтага інстытуту і сістэмы, якая ўтрымлівае людзей ва ўмовах несвабоды. Наступае талерантнасць да несправядлівасці — яна пачынае ўспрымацца нормай, з якой варта змірыцца**

Асобным пунктам трэба ўказаць згаданы вышэй крымінальны слэнг, які ўжо заняў сваё трывалае месца ў паўсядзённым жыцці. Мала хто задумваецца, што такія ўжо прывычныя словы, як «прикол», «наезд», «беспредел», «базар» (у сэнсе «размова»), «понты» прыйшлі да нас з крымінальнага жаргону. Асабліва важна тое, што многія з такіх словаў і іх сэнсавыя падаплёкі перайшлі ўжо ў выказванні афіцыйных асоб.

Вельмі частае ўжыванне кіраўніком Беларусі слова «нахіліць» — менавіта ў значэнні «прынізіць», «прымусіць», «зламаць волю» — не пакідае сумневаў у тым, што ў яго вуснах яно носіць падтэкст, уласцівы менавіта для зоны з наўпроставым намёкам на зонаўскае «апусканне», згвалтаванне. Тут можна доўга разважаць пра тое, якая маральная і каштоўнасная парадыгма дамінуе ў галаве кіраўніка Беларусі, але галоўнае не гэта, а тое, што выкарыстанне на ўладным узроўні такога кшталту тэрміналогіі легітымізуе і нармалізуе яе ў вачах грамадства.

Акрамя нармалізацыі крымінальнага слэнгу ў грамадстве назіраецца і нармалізацыя турмы як інстытута, яе дэсакралізацыя. З аб'екту страху і невядомасці, з таямнічага месца, якога варта баяцца, праз пранікненне турэмнай культуры на волю яна робіцца аб'ектам мемаў, жартаў у інтэрнэце, чымсьці, пра што пяюць з кожнай маршруткі, тым самым набліжаючыся — прынамсі, уяўна — да кожнага чалавека.

Гэтая тэндэнцыя мае як станоўчыя, так і адмоўныя наступствы. Станоўчым можна назваць тое, што па меры гэтага «набліжэння» турмы да соцыуму людзі, што прайшлі турму, перастаюць успрымацца ізгоямі, парыямі, на іх ужо не глядзяць як на безнадзейных маргіналаў, што, безумоўна, дапамагае ім пазбавіцца стыгматызацыі і садзейнічае іх адаптацыі ў грамадстве.

Аднак, з іншага боку, з нармалізацыяй турмы ў грамадскай свядомасці прыходзіць і знікненне ўсялякай крытыкі на адрас гэтага інстытута і сістэмы, якая ўтрымлівае людзей ва ўмовах несвабоды. Наступае талерантнасць да несправядлівасці, міліцэйскага гвалту, падзелу людзей на касты ў рамках антыгуманных крымінальных паняццяў — яны пачынаюць успрымацца нормай, з якой варта змірыцца як з арганічнай часткай жыцця.

Нельга не адзначыць яшчэ адзін цікавы момант. Пры такім шырокім распаўсюдзе крымінальнай культуры ў грамадстве, на фармальным узроўні дзяржава часта дэкларуе барацьбу з ёю і прыхільнасць каштоўнасцям «закону і парадку». Так, ГУБАЗ МУС вядзе няспынную вайну супраць «злодзеяў у законе», у Беларусі забараняюць канцэрты выканаўцаў лагернага шансону, а ў месцах пазбаўлення волі няспынна ўзмацняецца рэжым і практыкуюцца ўсё больш жорсткія дысцыплінарныя, а тое і крымінальныя пакаранні супраць тых, хто з'яўляецца прыхільнікам злодзейскіх правілаў жыцця.

Такую супярэчлівасць я бачу нічым іншым, як прыкметай «разбалансаванасці» дзяржаўнай машыны, калі адны яе інтарэсы ўваходзяць у супярэчнасць з іншымі. Відавочна, што крымінальныя паняцці і каштоўнасці, на якіх яны будуюцца, з'яўляюцца ментальна блізкімі немалой часткі прадстаўнікоў дзяржапарата. Дый наогул, іерархія, пакланенне моцнаму, традыцыяналізм, уласцівыя аўтарытарным рэжымам.

Аднак нежаданне цярпець у краіне альтэрнатыўную ўладу (у выглядзе злодзейскай супольнасці), а таксама імкненне лішні раз падкрэсліць сваю легітымнасць, захаваць законны, цывілізаваны твар перад насельніцтвам дыктуюць дзяржаве іншую логіку — і яна вядзе, хай і даволі фармальную, але ўсе ж вайну супраць крымінальнай субкультуры.

## Перспектывы «культурнага абмену»

Любыя зрухі ў культуры цягнуць за сабой больш шырокія змены ў грамадстве. Я не з'яўляюся безумоўным прыхільнікам постструктуралісцкіх меркаванняў аб тым, што дыскурс, словы і значэнні, якія ўжываюцца людзьмі, цалкам фармуюць сацыяльную рэчаіснасць і кіруюць уладнымі ўзаемаадносінамі ў грамадстве. Пераацэньваць значэнне словаў нельга, і, канешне, сам факт ужывання слова «зашквар» у штодзённым звароце індывіда не кажа аб тым, што ён абавязкова аўтарытарная садысцкая асоба, якая толькі і шукае, як паздзекавацца са слабых. Аднак агульныя тэндэнцыі дазваляюць казаць — паўтаруся — пра нармалізацыю турэмнай тэматыкі ў галовах людзей, асабліва маладога пакалення.

Турма, а як следства — і яе каштоўнасці і ўласцівыя ёй сацыяльныя практыкі і пачварная іерархія — перастаюць здавацца нечым пачварным і нечалавечым. Ператвараючыся спачатку ў частку лексікону і аб'ект для сцёбу, потым — у элемент паводзінаў, яны могуць істотна паўплываць — і ўжо ўплываюць — на фарміраванне мыслення людзей, на іх разуменне прымальнага і непрымальнага, прыводзяць да размывання маральных арыенціраў — і без таго размытых спажывецкім і канфармісцкім грамадствам.

І тут будзе не лішнім нагадаць, што каштоўнасці турэмнай культуры, такія, як культ сілы, пагарда да слабых, пакланенне перад начальствам, крывадушнасць і двудумства, «традыцыйныя каштоўнасці» (у самым нягодным іх выглядзе), з'яўляюцца вельмі ўрадлівай глебай для росквіту аўтарытарызму і дыктатуры любога кшталту, бо заахвочваюць кансерватызм, страх, абмежаванасць мыслення, замацоўваюць несправядлівасць і «права моцнага» на ўсіх узроўнях грамадства. Гэтыя маральныя ўстаноўкі, будучы ўкаранёнымі ў грамадскай свядомасці, шматкроць павышаюць кіраванасць грамадства, гэтаксама, як наяўнасць у турме каст («блатных», «мужиков», «петухов») павышае кіраванасць зонай для яе адміністрацыі.

Адзіным эфектыўным сродкам барацьбы з гэтай негатыўнай з'явай — іерархічнымі і антыгуманнымі парадыгмамі мыслення і сацыяльнымі практыкамі як турэмнага, так і нетурэмнага паходжання — можа быць толькі фарміраванне моцнай і жыццяздольнай культуры ці нават набору такіх культур (бо маналітныя культуры няўстойлівыя ў нашым плюралістычным свеце), якія б базіраваліся на каштоўнасцях альтруізму, эгалітарнасці і гуманізму.

А паколькі гэта, як можна пераканацца па сённяшніх сацыяльных рэаліях, у спіс інтарэсаў дзяржавы ніяк не ўваходзіць, дык такая задача застаецца цалкам на плячах грамадзянскай супольнасці і кожнага нас у прыватнасці.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УЗБЕКІСТАН. Геі нараджаюцца праз серыялы?

Цікавую версію аб паходжанні прадстаўнікоў ЛГБТ ва Узбекістане прапанаваў галоўны імам адной ташкенцкай мячэці — Рахматула Сайфудзінаў. Ён заявіў, што «ад жанчын, якія думаюць не пра мужа, а пра прыгожых акцёраў з турэцкіх серыялаў, нараджаюцца дзеці-геі». Логіка разважанняў у Сайфудзінава наступная: «Калі жанчына думае пра іншага мужчыну, атрымліваецца, што яе муж аказваецца ў такім становішчы, як бы ён здзяйсняў палавы акт з мужчынам. Гэта пачуццё перадаецца зачатым у такія моманты дзецям. У такім выпадку ў гэтай сям'і нараджаюцца геі». Сентэнцыя Сайфудзінава выклікала гарачыя спрэчкі ва ўзбекскім сегменце сацыяльных сетак. Тым больш, што гэта не першы гучны дэмарш згаданага імама. Раней ён заклікаў забараніць мужчынам-узбекам працаваць гінеколагамі. Трэба сказаць, што большасць каментуе выснову імама надзвычай крытычна.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### ЗША. Дональд Трамп будзе перабраны ў 2020-м?

Такі радыкальны прагноз зрабіў вядомы амерыканскі рэжысёр Майкл Мур. Той самы Майкл Мур, які ледзь не першым у 2016-м прадказаў, што дзівак і клоўн Дональд Трамп пераможа Хілары Клінтан. Шмат хто лічыў Мура фантастам, аднак пасля таго, як Трамп перамог, да яго меркаванняў пачалі ставіцца больш сур'ёзна. Чаму Мур лічыць верагодным поспех Трампа і на наступных выбарах праз два гады? На думку рэжысёра, на Трампа працуе хаос у шэрагах дэмакратаў, якія так і не здолелі высунуць нейкую яскравую фігуру, якая была б здольная пазмагацца з цяперашнім гаспадаром Белага дому. Адначасова публіка не бачыць у дэмакратах нейкай сістэмнай альтэрнатывы. Каментуючы прагноз Мура, некаторы эксперты лічаць, што ЦРУ і ФБР не дапусцяць другога тэрміну Трампа і да 2020-га будуць намагацца прыбраць прэзідэнта праз працэдуру імпічменту.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Ахвяра 8 красавіка

У цэнтры святкавання апошняга 8 сакавіка ва Украіне нечакана апынулася фігура Уладзіміра Вятровіча — дырэктара Інстытута нацыянальнай памяці, які адказвае за дэкамунізацыю. Справа ў тым, што раней ён заклікаў пазбавіць 8 сакавіка статусу выходнага дня. Ініцыятыва Вятровіча, натуральна, не спадабалася шматлікім суайчыннікам, якія запусцілі незвычайны флэшмоб: пачалі віншаваць Вятровіча з 8 сакавіка на яго старонцы ў Facebook. Спачатку ўладальнік старонкі спрабаваў прыбіраць віншаванні, аднак праз вялікую колькасць пастоў у выніку махнуў рукой. Між тым, абаронцы 8 сакавіка на гэтым не супакоіліся. Вуснамі аднаго з вядучых тэлебачання яны прапануюць адзначаць дзень нараджэння Вятровіча як жаночы дзень. Трэба дадаць, што Вятровіч не адзіны, хто планаваў скасаваць святкаванне 8 сакавіка. У гэты дзень у чатырох гарадах Украіны прыхільнікі кансерватыўных поглядаў атакавалі акцыі феміністак. Ёсць нават параненыя.

**Паводле ўкраінскай прэсы**



### ШВЕЦЫЯ. З новай прынцэсай

Шведская каралеўская сям'я 9 сакавіка папоўнілася новым дзіцём. Прынцэса Мадлен нарадзіла дзяўчынку, якой далі імя — Адрыяна Джазефіна Аліса. Як і патрабуе традыцыя, імёны былі агучаныя падчас спецыяльнага пасяджэння парламента. Праўда, шанцаў заняць шведскі трон у Адрыяны Джазефіны Алісы вельмі мала. Яна — дзясятая ў чарзе за каронай. Акрамя таго, наўрад ці яна будзе падрыхтаваная да такой місіі, паколькі яе сям'я жыве ў Нью-Ёрку, дзе Адрыяна Джазефіна Аліса, напэўна, і будзе вучыцца. Увогуле, у караля Карла XVI Густава сем унукаў і унучак. Тым не менш, нельга выключаць любы сцэнар. У тым ліку таму, што Мадлен вельмі папулярная ў народзе. Увогуле, навіна з Лондану, дзе нарадзілася прынцэса, вельмі ўзрадавала шведаў. У свой час лічылася, што манархія знаходзіцца ў крызісе, пра што сведчыў разрыў шлюбу прынцэсы Вікторыі ў 2010-м. Цяпер любоў да манарха зноў б'е ўсе рэкорды папулярнасці.

**Паводле нямецкай прэсы**

# Юбілей аднаго ўльтыматуму

Алег НОВІКАЎ

**Славутаму польскаму ўльтыматуму на адрас Літвы — 80 гадоў. Гэта яскравая старонка ў гісторыі так званага «віленскага пытання».**



Фота www.szhaman.livejournal.com

**Вільня. Лукішкі. Святочны парад пасля ўціхамірвання Літвы, 1938 год**

Ультыматум 17 сакавіка 1938 года — адзін з самых незвычайных дакументаў у гісторыі міжнародных адносінаў. Польшча не патрабавала ад суседзяў нейкіх земляў або палітычных дэкларацый. Адзінае, чаго хацела Варшава ад Каўнаса, — распачаць нармальныя дыпламатычныя стасункі. Але кантактаваць з Варшавай літоўцы ўпарта адмаўляліся праз праблему Вільні, якую ў 1920 годзе Пілсудскі ўключыў у склад Польшчы насуперак міжнародным дамовам.

У выніку паўстаў сапраўдны казус. Паміж дзяржавамі на працягу 500 кіламетраў не існавала нармальнай мяжы. Дзе пачынаецца Літва, а дзе Польшча, вызначалі, як кажуць, на вока.

Каб падкрэсліць катэгарычнасць сваёй пазіцыі, літоўскі бок разбурыў усе камунікацыі з Польшчай — у тым ліку чыгунку. Не працавала і паштовая сувязь: каб ліст з Каўнаса трапіў у Варшаву, даводзілася дасылаць яго праз Вену або Рыгу. У літоўскай палітычнай дыскусіі ідэя кампрамісу з часам стала табу. Пакутавалі ад узаемнай ізаляцыі перш за ўсё нацменшасці. Каб ціснуць на суперніка, Варшава час ад часу пераследавала польскіх літоўцаў, а Каўнас — мясцовых палякаў.

Развязка амаль 20-гадовага канфлікту адбылася нечакана. 80 гадоў таму, 11 сакавіка 1938-га, на мяжы невядомыя абстралялі патруль КАП (Корпуса аховы памежжа — польскай памежнай службы). Адзін з жаўнераў загінуў. У прынцыпе, такіх інцыдэнтаў хапала заўжды. Памежнікі, як звычайна ў такіх сітуацыях, пачалі фармальныя кансультацыі, не ведаючы, што справу ўжо ўзяў пад кантроль польскае МЗС.

14 сакавіка быў выдадзены «камунікат» польскага ўраду, які ўтрымліваў беспрэцэдэнтна жорсткія фармулёўкі. Адказнасць за смерць памежніка ўскладалася на ўлады Літвы (раней у такіх выпадках пісалі пра нейкіх абстрактных агентаў). Быў незвычайным для лексікі дыпламатаў і фінал тэксту, паводле якога польскі ўрад пакідаў за сабой права дзейнічаць, сыходзячы з далейшага развіцця сітуацыі.

Наўрад ці Варшава перайшла да такой рыторыкі без адпаведнага міжнароднага антуражу. Пазіцыя Літвы шмат у чым залежала ад настрояў у Берліне, які на той час сябраваў з Польшчай. У тым жа сакавіку Гітлер арганізаваў аншлюс Аўстрыі. Лічылася, што ў якасці падзякі Германія павінна была заплюшчыць вочы на польскую акцыю ў літоўскім накірунку. Увогуле, частка нямецкай эліты вітала літоўскія аспірацыі, спадзеючыся абмяняць Клайпеду на так званы «польскі калідор» — тэрыторыю міжваеннай Польшчы, якая аддзяляла германскі анклаў Усходняя Прусія ад асноўнай тэрыторыі Германіі. Што тычыцца СССР, то ён быў не гатовы прыйсці на дапамогу літоўцам. Парыж і Лондан таксама схіляліся да таго, што Каўнасу і Варшаве трэба шукаць дыялог.

Так ці інакш, польская прэса ахвотна падтрымала тэзісы «камунікату». «Бандыцкі напад літоўскай паліцыі на патруль КАП», «Польскі жаўнер стаў ахвярай літоўскай засады», «Літоўцы ўварваліся на землі Польшчы» — вось некаторыя загалоўкі цэнтральных польскіх СМІ ад 14 сакавіка. Не дзіўна, што грамадская атмасфера вельмі хутка напалілася аж да таго, што газеты пісалі пра неабходнасць акупацыі Літвы. 13 сакавіка 1938 года фармаванні польскіх легіянераў арганізавалі вялікую дэманстрацыю каля польска-літоўскай адміністрацыйнай лініі. Па ўсёй краіне адбываліся маніфестацыі, удзельнікі якіх заклікалі Пілсудскага загадаць ісці на Каўнас.

**Літоўцы такой рэакцыі на інцыдэнт 11 сакавіка не чакалі. Каб не выклікаць панікі, ва ўрадзе нават паспрабавалі ігнараваць навіны з Польшчы. Аднак схаваць праўду не атрымалася**

Дарэчы, спікеры апазіцыі (як правай, так і левай) крытыкавалі «камунікат», кажучы пра штучны характар істэрыкі, якая, маўляў, патрэбная Пілсудскаму, каб адцягнуць увагу ад больш важных праблемаў.

Што тычыцца літоўскага боку, то там такой рэакцыі на інцыдэнт 11 сакавіка яўна не чакалі. Каб не выклікаць панікі, у прэс-службе ўраду нават паспрабавалі ігнараваць навіны з краіны-суседкі. Аднак схаваць праўду не атрымалася, і хутка ўсю краіну ахапілі чуткі пра магчымую вайну. Але да баталій справа не дайшла. 17 сакавіка пабачыў свет той самы славуты ўльтыматум Польшчы, у якім яна патрабавала ўсталявання дыпламатычных адносін з Варшавай на працягу 48 гадзін. Нельга прайсці міма аднаго пункта патрабаванняў ультыматуму: з літоўскай Канстытуцыі павінен быць выкраслены артыкул, у якім Вільня названая «сталіцай Літоўскай Рэспублікі».

Дарэчы, для польскіх радыкалаў і гэтага было мала. Апошнія патрабавалі, каб у Каўнасе паўстаў прапольскі ўрад, быў заключаны новы варыянт Люблінскай уніі, а ў Клайпедзе з'явілася польская вайсковая база. Гучала ідэя надаць усім польскім літоўцам статус юрыдычнай аўтаноміі. Так ці інакш, у Каўнаса не было іншага выйсця, як пагадзіцца на перамовы, якія пачаліся ў Таліне.

Аднак заставалася яшчэ адна важная рэч. Падпісанне дамовы з Польшчай павінна было азначаць, што Літва так ці інакш адмаўляецца ад прэтэнзій наконт Вільні. Натуральна, для літоўскіх нацыяналістаў гэта быў сапраўдны шок. Не дзіва, што Літву ахапілі масавыя антыўрадавыя маніфестацыі. Пачаўся ўрадавы крызіс. Найбольш радыкальныя фракцыі ў выглядзе Саюзу стральцоў нават абавязаліся ўзяць на сябе функцыю абаронцаў краю, калі ўрад пойдзе на саступкі палякам.

Але працягу гэтыя ваяўнічыя заявы не мелі. Літоўскі Сейм падчас пасяджэння, якое цягнулася ўсяго сем хвілінаў, пагадзіўся на патрабаванні Варшавы (хаця мяняць Канстытуцыю ўсё ж адмовіўся). Як прызнавалі суайчыннікі, ніякай іншай альтэрнатывы, акрамя нармалізацыі адносінаў з Польшчай, не было. Што тычыцца польскай грамадскасці, то яна вітала літоўска-польскае паразуменне, кажучы пра адраджэнне духу Грунвальда. Адначасова святкавалася гістарычная перамога: больш ніхто не аспрэчваў, што Вільня — частка Польшчы. Аднак, як давялі наступныя падзеі, гэта была ілюзія.



Фота www.rusimperiainfo.com

# ПАР: Узяць і падзяліць

Алег НОВІКАЎ

**Парламент Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі (ПАР) падтрымаў законапраект аб бясплатнай нацыяналізацыі земляў белых. Белыя ў адказ задумаліся пра стварэнне сваёй аўтаноміі — так званай Volkstaat.**

У прынцыпе, ідэя асобнай адміністратыўнай адзінкі для белых у ПАР не новая. Самае смешнае, што яе прыдумалі яшчэ ў часы апартэіду, калі белыя панавалі ва ўсіх сферах жыцця. Нашчадкам афрыканераў — каланістаў з Галандыі, не вельмі падабалася жыць побач з нашчадкамі каланістаў з Англіі. Так нарадзілася ідэя правінцыі Boerstaat, дзе будуць жыць толькі афрыканеры.

Напрыканцы 1980-х гадоў, калі крах апартэіду быў ужо відавочным, ідэю падобнай аўтаноміі, якая павінна была назвацца Volkstaat for Afrikaners, прапанавала адна з партый. Тая партыя з часам знікла з палітычнага пейзажу, аднак ідэя засталася. У 2010-м вядучае выданне афрыканераў правяло адпаведнае апытанне сярод сваіх прыхільнікаў. Паводле яго вынікаў, каля 70 працэнтаў рэспандэнтаў мелі намер пераехаць у Volkstaat, як толькі аўтаномія будзе абвешчаная. У 2015 годзе колькасць ахвочых выправіцца ў Volkstaat дасягнула 93 працэнтаў.

Канстытуцыя шматэтнічнай Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі ўтрымлівае вельмі цікавы пункт. Паводле артыкулу 235, прадстаўнікі пэўнай этнічнай групы маюць права аўтаноміі на тэрыторыях, на якіх яны пражываюць. Праўда, якім чынам можна стварыць новую аўтаномію, Канстытуцыя не распавядае.

Тое, што Volkstaat пры такой папулярнасці дагэтуль не паўстала, напэўна, можна патлумачыць спецыфікай праблемаў белай камуны. Белыя паўднёвыя афрыканцы, як правіла, больш за ўсё пакутуюць ад крыміналу. Схавацца ад яго можна ў белых кварталах, якія цалкам ізаляваныя ад маргінальных раёнаў. І для таго, каб быў такі камфорт, ніякага Volkstaat не трэба. Акрамя таго, даўно (праўда, на правах прыватнай уласнасці), існуюць калоніі толькі для белых. Самая вядомая з іх — Аранія, дзе пражываюць каля 1500 чалавек.

Імпульсам для цяперашняга рэнесансу праекту Volkstaat стаў прыняты парламентам законапраект. Важны нюанс — ідэю канфіскацыі земляў белых без кампенсацый прапанаваў Джулиус Малема, лідар левaрадыкальнай партыі «Змагары за эканамічную свабоду», якая мае ўсяго жменьку дэпутатаў. Аднак за прапанову прагаласавала група дэпутатаў ад вядучай у краіне партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» (ANC).

Раней ANC упарта сабатаваў падобныя праекты. Перад вачыма яго лідараў, напэўна, стаяў адмоўны досвед суседняй Зімбабвэ, дзе былы прэзідэнт Робер Мугабэ ў 2000-м правёў такую рэформу. Землі белых фермераў прымусова канфіскавалі і перадалі мясцовым карэнным жыхарам. Гэта прывяло да калапсу сельскагаспадарчай вытворчасці, што яшчэ больш паглыбіла эканамічны крызіс, выклікала байкот краіны з боку міжнародных арганізацый і фінансавых інстытутаў. Напэўна, нездарма адзін з першых законаў, які былі прыняты пасля звяржэння Мугабэ ў мінулым годзе, даў дазвол для белых фермераў браць зямлю ў арэнду на 99 гадоў.

Тое, што ANC пайшоў па шляху Мугабэ, тлумачыцца палітычным момантам. Зараз праз жудасную карупцыю ў кіраўніцтве партыя знаходзіцца ў крызісе. У мінулым месяцы пайшоў у адстаўку яе папярэдні старшыня і цяпер ужо экс-прэзідэнт Якаб Зума. Каб не даць рэйтынгу ANC канчаткова ляснуцца, яго пераемнік на пасадзе старшыні і прэзідэнта Сірыл Рамафоса ў інаўгурацыйнай прамове падтрымаў папулярную сярод чарнаскурых суайчыннікаў ідэю нацыяналізацыі зямель белых. Ініцыятыву ў народзе сапраўды віталі. Нагадаем, што пасля краху апартэіду белыя грамадзяне захавалі свае зямельныя надзелы, якія складаюць большасць зямельнага фонду краіны (85 працэнтаў).

Новы закон ставіць белыя калоніі накшталт Араніі пад пагрозу знішчэння. Цяпер усе землі каланістаў могуць быць канфіскаваныя. Натуральна, тут жа і прыгадалі пра Volkstaat. Адна з партый адразу ж стала рыхтаваць паперы, каб пачаць прававы працэс стварэння аўтаноміі. Ужо нават абраная тэрыторыя, дзе можа знаходзіцца новая адміністратыўная адзінка — гэта частка на захадзе краіны з выхадам да Атлантычнага акіяну. На думку аўтараў Volkstaat, альтэрнатывы аўтаноміі для белых няма. Як толькі пачнуцца канфіскацыі, у краіне выбухне грамадзянская вайна, якая ўжо трывае ў прыхаваных формах. У мінулым годзе падчас зямельных канфліктаў былі забітыя 76 чалавек.

Ці ператворацца дэбаты пра Volkstaat у нешта больш рэальнае, стане вядома ўвосень. 30 жніўня зямельны камітэт парламента павінен зацвердзіць канчатковыя фармулёўкі правак у Канстытуцыю наконт канфіскацыі. Пасля юрысты змогуць распрацаваць прававы механізм канфіскацый, што прымусіць белую грамаду неяк рэагаваць.

Праўда, некаторыя вераць, што ўсё абыдзецца. Калі скандальны закон пачнуць рэалізоўваць, краіна не пазбегне санкцый з боку МВФ або Сусветнага банку. Знешнія крэдыты — важная крыніца падтрымкі бюджэтнай стабільнасці ПАР, ад якой у тым ліку залежыць дабрабыт і апаратчыкаў ANC.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Хорст Зеехофер



Старшыня баварскага Саюза хрысціянскіх сацыялістаў (CSU) стаў сябрам новага нямецкага ўраду. Акрамя CSU туды ўвайшлі хрысціянскія дэмакраты і сацыял-дэмакраты.

Пры гэтым Зеехофер узначаліў дэпартамент, якога яшчэ ніколі не было ў гісторыі ФРГ. Яго назва — «Міністэрства ўнутраных спраў і радзімы». Менавіта слова «радзіма» ў назве сілавога ведамства шакавала шмат каго. У нямецкай палітычнай традыцыі катэгорыяй «радзіма» любяць спекуляваць радыкальныя правыя партыі, якія, у сваю чаргу, пазычылі яе з лексікону Гебельса. Таму некаторыя бачаць тут рэвізію антынацысцкіх прынцыпаў — ідэйнага падмурку, на якім паўстала ФРГ. Прынамсі, так думаюць шматлікія этнічныя меншасці ў ФРГ.

Што тычыцца партыі «Зялёных», дык яны ўвогуле кажуць пра пачатак трансфармацыі ФРГ у нацыянал-кансерватыўны рэжым венгерскага ўзору. На думку іншых каментатараў, новая назва МУС спатрэбілася, каб спыніць рост уплыву правапапулістаў з партыі «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD), якая набірае пункты менавіта за кошт патрыятычнай дэмагогіі.

Дасталася праз Зеехофера таксама і сацыял-дэмакратам. Будучы левымі, эсдэкі, як лічаць шматлікія аглядальнікі, павінны былі актыўна пратэставаць супраць рэбрэндынгу МУС. Ёсць думкі, што беспрынцыповасць «ружовых» можа яшчэ больш падкасіць давер да партыі, які і без таго вельмі слабы.

### Тэя Цулукіяні



На думку многіх, менавіта міністарка юстыцыі Грузіі будзе наступным прэзідэнтам. Выбары лідара Грузіі, нагадаем, адбудуцца ў кастрычніку гэтага года.

Пра тое, што кіруючая партыя «Грузінская мара» робіць стаўку менавіта на Цулукіяні, нібыта, сведчыць велізарная колькасць матэрыялаў, прысвечаных легендарнай сярэднявечнай царыцы Тамары, якія з'явіліся ў блізкіх да ўрада СМІ напярэдадні 8 сакавіка. Аўтары матэрыялаў як бы намякалі, што Грузіі ў якасці кіраўніка патрэбна менавіта жанчына. Ёсць, праўда, адна праблема — міністарка юстыцыі сёння не можа ганарыцца якім-небудзь прыкметным рэйтынгам.

Нельга не адзначыць ажыўленне ў лагеры апазіцыі, што выклікана заявай Міхаіла Саакашвілі. Пасля дэпартацыі з Украіны ён згадаў пра радзіму і заклікаў праціўнікаў «Грузінскай мары» да аб'яднання. Нагадаем, што пасля паразы на парламенцкіх выбарах 2016 года лагер аматараў Саакашвілі раскалоўся на дзве партыі. Калі былы прэзідэнт Грузіі паставіў крыж на сваіх украінскіх амбіцыях і гатовы вярнуцца ў грузінскую палітыку, трэба чакаць перазагрузкі апазіцыі і спробаў сарваць планы «Грузінскай мары» на восеньскіх выбарах.

Дарэчы, паводле новай Канстытуцыі Грузіі, выбары 2018 года будуць апошнімі наўпроставымі выбарамі прэзідэнта краіны. З 2024 года грузінскі прэзідэнт будзе абірацца ўжо выбарчай калегіяй з 300 прадстаўнікоў.

### Лівіу Драгня



Кіруючая Сацыял-дэмакратычная партыя (PSD) Румыніі на чале з Драгнем правяла пазачарговы з'езд, на якім была падтрыманая рэзалюцыю наконт пераходу Румыніі на еўра да 2024 года.

Лідар партыі таксама прапанаваў дарожную карту, згодна з якой фармальная падрыхтоўка механізму пераходу павінна скончыцца ў канцы гэтага года.

План Драгні вельмі амбіцыйны, калі прыгадаць, што краіна збіралася адмовіцца ад лея на карысць еўра яшчэ ў 2014 годзе. Аднак і тады, і пазней Еўрасаюз адмаўляў Бухарэсту, бо Румынія не адпавядала эканамічным стандартам. Сёння, на першы погляд, сітуацыя лепшая. Па выніках мінулага года краіна апынулася лідарам па росце ВУП ва Усходняй Еўропе (5,7 працэнта). Аднак, з іншага боку, Румынія пакуль застаецца адной з самых бедных і найбольш карумпаваных краін ЕС.

Сам Драгня быў пазбаўлены магчымасці стаць прэм'ер-міністрам з-за асуджэння па справе аб фальсіфікацыі на выбарах. Ён таксама знаходзіцца пад следствам па справе аб злоўжыванні службовым становішчам, а таксама па яшчэ адной справе — аб стварэнні злачыннай групоўкі, якая выводзіла сродкі з дзяржаўных праектаў, што, дарэчы, фінансаваліся з бюджэту ЕС.

16 сакавіка 2018 | № 9 (572) Новы час

# 100 гадоў БНР: Дакументы сведчаць

## Незалежнасць — адзіны шлях

Таццяна ПРОЦЬКА

**Другая Устаўная грамата БНР, прынятая 9 сакавіка 1918 года, дастаткова зразумела акрэсліла асноўныя прынцыпы пабудовы дзяржаўнага ладу на тэрыторыі Беларусі. Гэта была дэмакратычная рэспубліка.**

Было вызначана і тое, чым ёсць Беларусь — тэрыторыя, дзе пераважная большасць (больш за 50 працэнтаў) насельніцтва размаўляе па-беларуску, то бок, з'яўляецца беларускім народам. Але тэрыторыі, дзе жылі беларусы, напачатку 1918 года знаходзіліся пад рознымі кіраваннямі. Некаторыя з іх былі на акупаванай Германіяй тэрыторыі і поўнасцю залежалі ад яе. Праблема тэрытарыяльнай цэласнасці Беларусі стала найгалоўнейшай. І як яе вырашыць, Другая Устаноўчая грамата не казала.



Калаж Courtesy Photo

### Ірвалі на шматкі

Яшчэ да пачатку Першага Усебеларускага з'езда, 2 снежня 1917 года, па ініцыятыве новай расійскай улады — савецкай — было заключанае перамір'е Расіі з Германіяй і распачатыя сепаратныя перамовы пра заключэнне міру. Гэтыя перамовы праводзіліся ў Брэсце па галоўнай формуле: мір без анексій і кантрыбуцый. На гэтым настойваў савецкі ўрад, з гэтым пагадзілася і Германія. Але зрабіла агаворку: гэтая формула магчымая толькі тады, калі ўсе краіны, якія ўдзельнічаюць у вайне, будуць яе прытрымлівацца. Гэтая акалічнасць давала магчымасць весці перамовы бясконца.

У той жа час на тэрыторыях былой Расійскай імперыі, якія былі занятыя германскімі войскамі, пры падтрымцы ўрада Германіі, пачалося ўтварэнне нацыянальных дзяржаў, так ці інакш звязаных з Германіяй. Германскі ўрад планаваў, што гэта будуць маленькія манархічныя дзяржавы, дзе манархамі стануць родзічы германскага імператара, ці дзяржавы, звязаныя з Германіяй саюзнымі дамовамі. Найперш гэта тычылася Польшчы, Фінляндыі (Курляндыі), Латвіі (Латгаліі), Эстоніі (Эстляндыі), Літвы і Украіны. Акрамя Фінляндыі і Эстоніі, новыя краіны мелі намер уключыць у свой склад тэрыторыі, дзе пераважна жылі беларусы.

Да пачатку 1918 года сярод беларускіх палітычных дзеячаў найбольш папулярнай для самавызначэння беларускага народа з'яўлялася ідэя нацыянальна-культурнай аўтаноміі ў складзе дэмакратычнай Расійскай Рэспублікі. Лічылася, што расійскія войскі змогуць абараніць Беларусь ад іншаземных захопнікаў, а савецкі ўрад захавае цэласнасць беларускага народа, складзе спрыяльныя магчымасці для яго развіцця. Аднак рознагалоссі ў савецкім урадзе паміж Леніным і Троцкім адносна ўмоў заключэння міру з Германіяй, фактычная здача немцам Мінска пасля пачатку ваенных дзеянняў у сярэдзіне лютага 1918 года (савецкае кіраўніцтва Беларусі спешна з'ехала ў Смаленск), колькасць прыхільнікаў гэтай ідэі значна паменшылі.

Гэтаму памяншэнню спрыяла таксама пазіцыя новых памежных з Беларуссю дзяржаў, асабліва Польшчы і Літвы.

Яшчэ ў жніўні 1916 года Германія і Аўстра-Венгрыя ўтварылі на тэрыторыі былога Царства Польскага (адміністрацыйнай адзінкі Расійскай імперыі) самастойную, але не незалежную дзяржаву — Каралеўства Польскае. У сакавіку 1917 года расійскі Часовы Урад прызнаў права Польшчы на незалежнасць пры ўмове саюзу з Расіяй. Далейшую адбудову незалежнай польскай дзяржавы пачаў весці Польскі Нацыянальны Камітэт. Напачатку 1918 года Польшча знаходзілася ў шчыльным саюзе з Германіяй і спадзявалася з яе падтрымкай далучыць заходнія беларускія губерні былой Расійскай імперыі да Каралеўства Польскага.

На тэрыторыі Літвы яшчэ ў верасні 1917 года быў створаны кіруючы орган — Літоўская Тарыба (савет). 16 лютага 1918 года ён абвясціў незалежнасць Літоўскай дзяржавы ў саюзе з Германіяй. З пачаткам нямецкага наступу 18 лютага 1918 года беларускія арганізацыі, якія знаходзіліся ў Вільні і ўваходзілі ў Віленскую Беларускую Раду, каб прадухіліць далучэнне Віленшчыны да польскай дзяржавы, звярнуліся «да ўсіх гасударстваў, прызнаючых прынцып самавызначэння нацыянальнасцей, а ў першы чарод да Нямеччыны, каторая мае найболяй супольных з Беларуска-Літоўскім краем эканамічных інтарэсаў, с прызывам оказаць помач у справе адбудовы дзяржаўнай незалежнасці колішняго Літоўска-Беларускага гасударства (Вялікага княства Літоўскаго) — няўзіраючыся на цяперашні раздзел яго мяжою хронту» **(тут і надалей у цытаваных дакументах захоўваецца арфаграфія арыгіналаў. — аўт.).**

Занепакоенасць беларусаў Віленшчыны магчымым далучэннем да Польшчы беларускіх тэрыторый не была беспадстаўнай. Згодна з Брэсцкай мірнай дамовай, якая была падпісана 3 сакавіка 1918 года, Расія пагаджалася перадаць беларускія губерні Германіі, Палессе — Украіне. На справе гэта азначала, што Беларусь будзе падзеленая паміж тымі новаўтворанымі дзяржавамі, якія мелі саюзныя дамовы з Германіяй.

### У пошуках саюзнікаў

Трэба зазначыць, што амаль адзіным саюзнікам БНР у гэты час стала Украіна, якая ў студзені 1918 года абвясціла сваю незалежнасць. Захаваўся дакумент — «Наказ дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі, пасылаемой у Кіеў да Украінскай Цэнтральнай Рады», выдадзены 22 сакавіка 1918 года, — які сведчыць пра гэта.

«1. Делегация официально извещает Украинскую Народную Республику об объявлении Беларуси Народной Республикой.

2. Делегация устанавливается об обмене представительствами между Беларусской и Украинской Народными республиками.

3. Делегация принимает меры о предоставлении в ея распоряжение Украинского радио-телеграфа для извещения всех народов о провозглашении Беларуской Нар. Республики.

4. Делегация участвует в переговорах между представителями Украины и Великороссии о мире: а) делегация добивается установления границ Беларуско-Великорусской и Беларуско-Украинской строго по этнографическому принципу; б) делегация возбуждает вопрос о возможности содействия Украинской Народной Республики по исправлению западной и северной границ Беларуси по этнографическому принципу.

5. Подписание договоров между Беларуской и Украинской Народными Республиками может последовать лишь по утверждении его Радой Беларуской Народной Республики.

6. Делегация выясняет вопрос о возможности заключения займа на Украине для Беларуской Народной Республики.

7. Делегация выясняет вопрос о возобновлении товарного обмена памиж Беларусией и Украинай.

8. Делегации предоставляется право привлечь к своей работе специалистов экспертов с правом совещательного голоса.

9. Делегация совместно с Украинским Правительством добивается установления прямого провода между Киевом и Минском.

10. Делегация имеет свою печать, утвержденную Радой Беларуской Народной Республики с надписью кругом "Народны Сэкрэтарыят Беларускай Народнай Рэспублікі", а внутри "Дэлегацыя ў справах перагавораў"».

Пытанне пазыкі грошай ва Украіне было вельмі важнае для ажыццяўлення дзейнасці БНР. У «радаўцаў» (так зваліся сябры Рады БНР) грошай не было нават для беларускіх вайсковых частак — пасля прыходу ў Мінск нямецкія ўлады канфіскавалі ўсе наяўныя грошы БНР і маёмасць Сакратарыяту. Гэта былі грошы Бежанскага Камітэта, Казначэйства, тыя, што захоўваліся ў паштовых аддзяленнях, — усяго 341 тысяча 441 рубель. Немцы забралі нават 10 друкарак, якія знаходзіліся ў памяшканні Сакратарыяту.

«Радаўцы» спрабавалі вярнуць незаконна канфіскаваныя грошы, нават была створаная сумесная германска-беларуская камісія па гэтым пытанні. Але грошы не вярнулі. З дазволу акупацыйнага камандавання «радаўцы» маглі весці толькі школьна-асветніцкую, выдавецкую, мясцова-адміністрацыйную дзейнасць на Міншчыне. Але разам з тым, Рада БНР з'яўлялася легальным органам — немцы пагадзіліся лічыць яе прадстаўніком насельніцтва Беларусі.

Захоп немцамі значнай тэрыторыі Беларусі паспрыяў аб'яднанню Віленскай Беларускай Рады і Рады БНР — іх аб'яднанне адбылося 18 сакавіка.

### Незалежнасць — адзіны шлях

Германія адмовілася афіцыйна прызнаваць БНР і яе ўрад — паколькі гэтага не зрабіла Расія. Згодна з міжнароднымі дамовамі, частка краіны не магла праводзіць самастойную палітыку і выконвала агульнадзяржаўныя дамовы. Беларусь, хай сабе і ў выглядзе БНР, з пункту погляду міжнароднага права лічылася часткай Расіі. Тэрыторыя Беларусі была, як казалі «радаўцы», разменнай манетай для выхаду Расіі з вайны.

Каб пазбегнуць падзелу Беларусі паміж іншымі краінамі, што непазбежна прывяло б да знікнення беларусаў як этнасу, 25 сакавіка Рада БНР прыняла гістарычнае і вызначальнае для беларускага народа рашэнне — абвясціла Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. Зроблена гэта было ў Трэцяй Устаўнай грамаце:

«Год назад народы Беларусі разам з народамі Расеі скінулі ярмо Расейскага царызму, які найцяжэй прыцiснуў быў Беларусь, ні пытаючыся народу, ен укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вескі беларускія.

Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржайнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і нізалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Нізалежнаю і Вольнаю Дзяржавай. Самі народы Беларусі у асобі свайго Устаноўчага Сойму, пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі.

На моцы гэтага трацяць сілу усе старыя дзяржаўныя зьвязі, якія далі магчымасць чужому ураду падпісваць за Беларусь трактат у Берасьці, што забівае на сьмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі.

На моцы гэтага урад БНР мае увайсці ў адносіны з зацікаўленнымі старанамі, прапануючы ім перагледзіць тую часціну Берасцейскага Трактату, якая датычыць Беларусі, і падпісаць міравую дамову з усімі ваяваўшымі дзяржавамі.

Беларуская Народная Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбенную перавагу беларускі народ, а ласьне: Магілеўшчыну, беларускія часьці Меншчыны, Гродзеншчыны (з Гроднай, Беластокам і інш.), Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежнай часьці суседніх губерняў, заселеныя беларусамі.

Беларуская Народная Рэспубліка падцьверджывае ўсе тыя правы і вольнасьці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9-га сакавіка 1918 году.

Абвяшчаючы аб нізалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, Рада яе пакладае свае надзеі на тое, усе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу у поўнай меры здзейсьніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы».

Лёс абвешчанай сто гадоў таму беларускай незалежнасці аказаўся складаным. Але сёння беларускі народ жыве ў сваёй незалежнай краіне і дзякуе тым сваім продкам за тое, што ў складаных гістарычных умовах яны выбралі адзіна слушны шлях — незалежнасць.

# «Наша Сібір»: што мы знайшлі і згубілі на бяскрайніх прасторах імперыі?

Андрэй ВАШКЕВІЧ,
Алесь КІРКЕВІЧ

**Заканчэнне. Пачатак у №8**

Яшчэ ў XVII стагоддзі на памежжы сучасных Расіі, Кітая, Манголіі і Казахстана паўстала Джунгарскае ханства. Ваяваць з ім было нерэальна: прыходзіць туды некалькі соцень казакоў, а там — коннікі, якія колькасна іх пераўзыходзяць у шмат разоў. Пасылаць большыя кантынгенты Масква яшчэ не магла.

Гісторыя засваення Сібіры — гэта яшчэ і гісторыя хлебу, дакладней, яго адсутнасці. Хлеб радзіў адно ў Мінусінскай катлавіне каля Байкалу. Там цёпла, там — жытніца Сібіры. Везці хлеб з сабой нерэальна, таму катлавіна, памерам з Гродзенскую вобласць, стала стратэгічнай тэрыторыяй. Да пэўнага часу ў катлавіне жылі кіргізы, потым джунгары перасялілі іх на тэрыторыю сучаснага Кыргызстану, а пасля прыйшлі кітайцы і знішчылі бурлівую і супярэчлівую дзяржаву джунгараў. У гэты час усе забыліся на катлавіну, якая, у выніку, апынулася ў руках рускіх.


Чукчы, малюнак часоў Расійскай імперыі

### Чукчы парэзалі цела на кавалкі і засушылі — на памяць

Што ж адбывалася на поўначы? Там руская сутыкнуліся з чукчамі. Апошнія некалі жылі на поўдні, але па логіцы рытмаў Еўразіі, больш моцныя народы адсунулі іх на поўнач, у экстрэмальныя ўмовы тундры. Але чукчы не вымерлі, наадварот — сталі неймаверна жыццяздольнымі і… агрэсіўнымі. Зараз ужо яны прыходзілі з поўначы да паўднёвых народаў, каб рабаваць майно ды ўводзіць жанчын.

Выйграць вайну з чукчамі ў рускіх таксама ніколі б не атрымалася. На самым ускрайку айкумены быў заснаваны Анадырскі астрог (умацаваны пункт па зборы ясака). У якасці астрогаў тады засноўваліся ўсе сібірскія гарады: Тара, Мангазея, Іркуцк, Табольск і іншыя. У 1747 годзе туды быў выпраўлены атрад на чале з маёрам Дзмітрыем Паўлуцкім, сынам ліцвіна, які меўся скарыць чукчаў. Ніхто не ведае, як выглядала тая бітва, магчыма, як Літл-Біг-Хорн з гераічнай ахвярай палкоўніка Кастэра, але атрад не вярнуўся. Паводле сведчанняў саміх чукчаў, Паўлуцкі біўся годна нават пасля ранення стралой у вока, таму пасля смерці ягонае цела парэзалі на кавалкі і… засушылі на памяць.

Добра разважыўшы, імператрыца Кацярына вырашыла: «Навошта нам той астрог? Выдаткі большыя…» І чукчаў наўпрост кінулі сам-насам з сабой, тундрай і палярнай ноччу: гэта была тэрыторыя Расіі, але ніякай рускай улады там не было ў прынцыпе. Сапраўдны ўскраек імперыі, акрайчык перад Берынгавым пралівам. Пасля з чукчамі наладжвалі сувязі праз гарэлку, а ў СССР выдумалі пра іх безліч анекдотаў. Сёння іх засталося ўсяго некалькі тысяч, але яны па-ранейшаму бясспрэчныя ўладары той зямлі. На гэтым тле гібель Палуцкага выглядае велічнай, але бессэнсоўнай.

### Спакусіў дачку ваяводы і на караблі збег у Еўропу

Дзякуючы літаратурнаму таленту Славацкага, агульнавядомай стала гісторыя Морыца Беніёўскага, які быў схоплены рускімі яшчэ напрыканцы існавання Рэчы Паспалітай і высланы на Камчатку. Там ён уступіў у зносіны з дачкой ваяводы, яны захапілі карабель і праз Індыйскі акіян вярнуліся ў Еўропу! Пасля Беніёўскі загінуў на Мадагаскары на службе ў французаў.

Сярод палонных паўстанцаў найбольш вядомым апынуўся Іван Чэрскі, удзельнік падзеяў 1863 года. Ён адкрыў горныя хрыбты на самым паўночна-ўсходнім ускрайку Расіі, а ягонае імя сёння носіць беларускае таварыства ў Іркуцку. Менш вядомы персанаж — Восіп Кавалеўскі з-пад Берастаўвіцы, які працаваў у Казанскім універсітэце і лічыцца адным з піянераў манголазнаўства. Зусім не вядомыя — браты Баляслаў і Браніслаў Кукелі ці тое з-пад Вільні, ці тое з-пад Воршы, якія спрычыніліся да адкрыцця вусця Амура, да якога рускія дайшлі адно ў сярэдзіне XIX стагоддзя.

### Сібір як магільнік грандыёзных праектаў

«Беларусізацыя» Сібіры на пачатку XX стагоддзя найперш звязаная з імем Пятра Сталыпіна. Цягам ягоных рэформаў пачала з'яўляцца новая катэгорыя беларусаў-сібіракоў — «выехаўшыя». Паводле плану чыноўніка, рэгіён меў быць засвоены з дапамогай жыхароў еўрапейскай часткі імперыі (беларусамі, украінцамі, рускімі), якія атрымаюць зямлю ў нетрах краіны. Так Сібір мелася пакрысе пераўтварыцца ў заселены рэгіён, а не ў пустку, працятую чыгункай, з асобнымі гарадамі-радзімкамі на вялізным целе.

У сталінскія часы праблему засваення Сібіры вырашалі ўльтыматыўна: наўпрост нашпігавалі яе вязнямі новай імперыі пад назвай ГУЛАГ. Ізноў, у кожным лагеры, на кожнай «чырвонай будоўлі», знайшлося нямала беларусаў… Але як толькі дыктатура дала слабіну, усе, хто выжыў, наўпрост разбегліся.

**Тут ёсць нейкая д'ябальская іронія: як толькі Расія плануе канструктыўнае засваенне Сібіры, што ў часы Сталыпіна, што ў часы Пуціна, здараецца нейкая трасца ў еўрапейскай частцы імперыі — і рацыянальныя планы адыходзяць на 2-гі, альбо нават на 52-гі план**

Такім чынам, на дэмаграфічным фоне Сібіры «чырвоная беларусізацыя» моцна не адбілася.

Як за часамі Саюза, так і зараз, Сібір для Расіі — гэта ўсё: найперш рэсурсы, але яшчэ і статус. Гісторыя засваення Сібіры — гэта гісторыя безлічы праектаў, больш ці менш удалых. Не будзем забывацца на Байкала-Амурскую магістраль, пасля — праекты грандыёзных электрастанцыяў: Саяна-Шушынская, Брацкая, якую пачынаў будаваць яшчэ вязень ГУЛАГу Адам Станкевіч. Ну і цалкам пякельныя ідэі, кшталту, Верхнеленскай ГЭС: закрыць раку дамбай, зрабіўшы гіганцкае вадасховішча, што будзе даваць нерэальныя аб'ёмы электраэнергіі. І гэта без уліку ўжо зусім інфернальнага праекту павароту сібірскіх рэкаў у іншы бок, каб «напаіць» Сярэднюю Азію і поўдзень Саюза.

Зрэшты, руская яшчэ нядаўна планавалі будаваць праз Лену мост у раёне Якуцка, але… пасля пераключыліся на Крым і Керчынскую пераправу: праект адклаўся. Планавалася таксама і магістраль праз Прымор'е… Тут ёсць нейкая д'ябальская іронія: як толькі Расія плануе канструктыўнае засваенне Сібіры, што ў часы Сталыпіна, што ў часы Пуціна, здараецца нейкая трасца ў еўрапейскай частцы імперыі — і рацыянальныя планы адыходзяць на 2-гі, альбо нават на 52-гі план.


Малюнак Мікалая Фаміна да «Сібірскай кнігі»

### Прастора для прыгодаў, вольніца і заробкі

Што ж такое Сібір для нас, беларусаў? Найперш, гэта зямля, куды мы паклалі багата сваёй энергіі, пасіянарнага капіталу і генафонду. Як мінімум, гэта дае нам сімвалічнае права на памяць і адказ на пытанне, чаму Расія сёння робіць беларусам зніжкі на газ ды нафту — гэта правільна і справядліва, бо без нас невядома, ці мела б яна сама тую нафту ды вялізныя тэрыторыі.

Гісторыі нашых продкаў у Сібіры за апошнія 500 гадоў — гэта яшчэ і велізарны прыгодніцкі сюжэт у стылі Купера ці Кіплінга. Заснежаныя прасторы гэтага краю сталі дэкарацыямі для гераічных біяграфіяў нашых суайчыннікаў — доказ таго, што беларусы сядзелі не толькі пад Лунінцом ці Оршай, але праяўлялі сябе ў сусветным кантэксце пашырэння цывілізаванага свету. Пагадзіцеся, кожная еўрапейская нацыя хоча мець гісторыю скарэння сваёй Індыі, Акііяніі альбо Вогненнай Зямлі. Для беларусаў, няхай і ў рускіх мундзірах, такой прасторай стала Сібір.

А яшчэ гэта была пэўная вольніца. У Сібір часцяком добраахвотна ехалі людзі, якім цяжка было трываць маскоўскую няволю. Так, яны не стварылі там сваіх дзяржаваў, бо гэта было наўпрост немагчыма. Чаму? Бо праблема Сібіры тых часоў — гэта абсалютная залежнасць ад цэнтру, без якога ў цябе не будзе ані хлебу, ані зброі, ані боепрыпасаў.

Цікава, ці будзе наогул Сібір некалі засвоеная? Цяжка сказаць, улічваючы зусім не вясёлую дэмаграфічную сітуацыю ўнутры краіны-суседкі і значна больш аптымістычную ў тым жа Кітаі… Верагодна, дробныя народы, кшталту кетаў, будуць надалей марнець і, урэшце, знікнуць. Больш моцныя — бураты альбо якуты — наадварот, будуць умацоўваць і дрэйфаваць кудысьці ў бок, падалей ад цэнтру. Беларусы ж надалей будуць ездзіць на заробкі «на край свету», штораз вяртаючыся на Радзіму, бо гадаваць дзяцей сярод цемры з тэмпературай мінус 40 ахвочых не так багата.







# Свіслач: гістарычная памяць

Дзіяна ПІНЧУК

**Ці існуе сёння ў Беларусі сапраўдная гістарычная памяць? Бясспрэчна, існуе «палітычная» памяць. Яна дакладна акрэслена Дзяржаўным спісам гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь і Пералікам нематэрыяльных праяў творчасці чалавека. Толькі ў адносінах да пералічаных аб'ектаў замацаваны абавязкі забеспячэння іх захаванасці.**

## Закон — не гарантыя

У Кодэксе аб адміністрацыйных правапарушэннях ды Крымінальным кодэксе замацавана адказнасць за парушэнне адносінаў у сферы гісторыка-культурных каштоўнасцей, што навязвае павагу да гэтых аб'ектаў. Тым не менш, напрыклад, герб «Пагоня» ўключаны ў спіс нематэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцей, а пытанні з боку свабоднага выкарыстання яго маюцца і на сённяшні дзень. Напрыклад, «Арт-сядзібе» ў верасні забаранілі рэалізоўваць на фестывалі «Lidbeer» прадукцыю з выявай «Пагоні», прадстаўнікі міліцыі працягваюць затрымліваць за выяву герба на цішотках, сцягах, і гэтак далей. У такім выпадку нават маецца супярэчлівасць улады ў сваіх дзеяннях наконт прызнанай ёй гістарычнай памяці.

Разыходжанне паняццяў гістарычнай і палітычнай памяці датычыцца і руінаў будынка ў аграгарадку Свіслач Асіповіцкага раёна. Там знаходзіцца даволі спрэчны гістарычны аб'ект. Да сёння адбываюцца дыскусіі наконт яго гістарычнай прыроды. Але, здаецца, што ў абшарах інтэрнэта даследаванні вядуцца больш актыўна, чым у асяродку беларускіх гісторыкаў-навукоўцаў. Самі мясцовыя называюць руіны замкам, дый часта можна пачуць па-за межамі пасёлка пра Свіслацкі замак. Дык замак ці не?



## Замак нумар адзін

Раней пасёлак Свіслач быў цэнтрам Свіслацкага княства, якое размяшчалася на тэрыторыі сучасных Асіповіцкага, Бабруйскага, Клічаўскага раёнаў, а таксама на частках сучасных Пухавіцкага, Чэрвеньскага і Старадарожскага раёнаў. Пра былую веліч гэтых земляў сведчыць захаваная частка абарончага рова і невялікі ўчастак землянога вала. Але дата існавання замка дагэтуль не вызначаная, і ў розных крыніцах прыводзяцца розныя гістарычныя перыяды. У пераліку гісторыка-культурных каштоўнасцей Асіповіцкага раёна можна знайсці «гарадзішча XI–XII ст., якое знаходзіцца на паўночнай ускраіне аграгарадка, недалёка ад зліцця ракі Свіслач і Бярэзіны», але пра помнік архітэктуры, які там знаходзіцца, нічога не гаворыцца. Што тычыцца архітэктурных аб'ектаў, то ў Асіповіцкім раёне статус культурна-гістарычнай каштоўнасці нададзены толькі былому дому габрэйскай сям'і Яцко 1911 года, які таксама знаходзіцца ў Свіслачы.

З'яўленне замка звязваюць з імем Глеба Усяславіча Менскага, які хацеў умацаваць свае пазіцыі на мяжы з Кіеўскай Руссю.

У 1962 годзе студэнты БДУ праводзілі раскопкі, з дапамогай якіх было ўсталявана, што замак тут на самай справе быў. У дакументах рэвізіі велікакняжацкіх зямель (прыкладна сярэдзіна XVI стагоддзя) адзначаецца, што «жыхары вёскі Цяплухі павінны былі рамантаваць правую ад варот вежу». У матэрыялах інвентарызацыі Свіслацкай воласці 1560 года адзначаецца: «На горе высокой, над рекою Свислочью, на одно стрельбище з лука от усьтя тое реки у Березину».

З чаго быў зроблены замак — не згадваецца, але, улічваючы, што на тэрыторыі Беларусі прыроднага каменя вельмі мала, цалкам магчыма, што замак быў драўляным. Замчышча акальцоўваў глыбокі роў, які дасягаў у шырыню 20–22 метраў. Але з цягам часу замак страціў сваё абароннае значэнне і ператварыўся ў звычайны феадальны двор, які зусім не быў прыстасаваны да абароны. Гэта пацвердзіла вайна Рэчы Паспалітай з Маскоўскім княствам у 1654–1667 гадах. Казакі лёгка захапілі яго, разрабавалі, а потым спалілі. Гэтым і скончылася гісторыя Свіслацкага замка — больш ён не аднаўляўся.

У некаторых крыніцах адзначаецца, што за доўгую гісторыю замак быў яшчэ і адміністрацыйным цэнтрам у часы Вялікага Княства Літоўскага, а таксама некаторы час знаходзіўся ва ўладаннях Радзівілаў.

## Замак нумар два

На месцы замка ў XVIII стагоддзі было пачата будаўніцтва гаспадарчай пабудовы памешчыкам Незабытоўскім. Сцены замка дэманструюць традыцыйную «беларускую кладку», якая сапраўды ўражвае. Пасля ў пабудовы былі розныя прызначэнні: сінагога, школа, хлебапякарня і гэтак далей. У 1980-я гады тут размяшчалася служба ДРБУ горада Асіповічы, а ў 1999 годзе на гэтым месцы планавалі збудаваць новую царкву. Тут заканчваецца гісторыя і гэтага «Свіслацкага замка».

У гэтых сценах рэжысёр Віктар Тураў здымаў фільм «Чорны бусел» (Беларусьфільм, 1993 год), прысвечаны тэме Чарнобылю. На гарадзішчы праводзіліся здымкі дзіцячага прыгодніцкага фільма Ігара Чацверыкава «Тры талеры».

У Свіслачы сёння не вядзецца ніякай працы па захаванні гэтага аб'екта, мясцовыя жыхары паціху расцягваюць яго на цэглу. Магчыма, у хуткім часе і гэтых руін не застанецца. Але ён, напэўна, на думку ўлады, недастаткова гістарычны, каб яго ўключыць у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей, што дало б хоць нейкую надзею на захаванне забудовы, хаця б ад актыўных варварскіх нападаў людзей. Зрэшты, на прыкладзе Крэўскага замка нельга сказаць, што ўключэнне ў Спіс дае гарантыю захаванасці таго ці іншага аб'екта.



## Свіслацкая жамчужына

Свіслач спакойна можа прэтэндаваць на першае месца ў Беларусі на лепшыя краявіды. З узгорка, дзе калісьці быў замак, адкрываецца ўнікальнае месца: там Свіслач упадае ў Бярэзіну. У гэтым плане нават «беларускія жамчужыны» Мірскі і Нясвіжскі замкі не могуць пахваліцца такімі краявідамі… І гэта не проста прыгожыя панарамы: месца зліцця Свіслачы і Беразіны ўваходзіць у ландшафтны заказнік «Свіслацка-Бярэзінскі», які быў створаны ў 2015 годзе. Дарэчы, у 2016 годзе заказнік быў уключаны ў Сусветны спіс водна-балотных угоддзяў, а ў 2019 годзе яго плануецца ператварыць у нацыянальны парк.

У Беларусі ўсе спадзяюцца на выратавальнае кола турыстаў. Калі і гэтае мястэчка разглядаць у кантэксце турыстычнай інфраструктуры, то, адназначна, у Свіслачы вялікі турыстычны патэнцыял. Але дзяржава працягвае аддаваць перавагу не гісторыі і беларускай аўтэнтычнасці — стаўкі робяцца на ідэальны малюнак, які зрабілі, напрыклад, у Нясвіжскім замку.

Існаванне ў дзяржаве сапраўднай гістарычнай памяці — гэта кампраміс улады, народа, усіх існуючых грамадскіх арганізацый. Відавочна, у большай ступені падвяргаюцца палітызацыі найперш гістарычныя факты, якія навязваюцца народу ў выгадным для сябе святле як і існуючым рэжымам, так і апазіцыяй. Але ў народа, у любым разе, павінна быць права на гістарычную, а не палітычную памяць.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №263

Падпісана да друку 16.03.2018. 8.00. Наклад 2500 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.